


# Рэгіянальная газета

13 верасня 2013 года
№ 37 (959)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Паўлінка з Будслава. Успамінае сваячка.

6-я старонка



Як першы раз палез ткаць, за вушы нацягалі.

19-я старонка



## навіны рэгіёна

### Стаянка каля рынку на выхадных бясплатная

**МАЛАДЗЕЧНА.** Тым, хто прыязджае закупляцца на рынак райспажыўтаварыства па выхадных, машыну можна пакідаць на прыватнай стаянцы. Пра гэта паведаміў аддзел эканомікі маладзечанскага райвыканкама. Стаянка каля рынку платная, але для пакупнікоў ад 5 да 13 гадзін у суботу і нядзелю яна будзе бясплатная. Гэта зроблена для таго, каб разгрузіць дарогу каля рынку.

### Фестываль "Залессе збірае сяброў" пройдзе ў пяты раз

**СМАРГОНЬ.** Фестываль-кірмаш ладзіцца 21 верасня ў аграгарадку Залессе. Цяпер у маёнтку Агінскага ідуць рэстаўрацыйныя работы, таму галоўная сцэнічная пляцоўка будзе знаходзіцца каля былога прафілакторыя. Свята пачнецца з канцэрта, у якім прымуць удзел калектыў смаргонскай дзіцячай школы мастацтваў імя Агінскага народны струнны ансамбль "Кантракты", народны ансамбль народнай музыкі "Ява", народны камерны ансамбль "Субіто", народная вакальная група "Кантабіле", народны калектыў народнай песні і танца "Вечарынка" і іншыя. Будзе працаваць горад майстроў. Кожны ахвотны зможа паўдзельнічаць у майстар-класах па народных рамёствах. Жыхары аграгарадка арганізоўваюць таксама працу падворкаў, дзе будуць гучаць песні і праходзіць розныя гульні. Самыя малодшыя ўдзельнікі свята таксама не застануцца без увагі. На імправізаваных падворках будуць гульні і для дзяцей. Акрамя гэтага, можна будзе пакатацца на каруселях ці паскакаць на батутах.

### Адкрылася выстава да 120-годдзя Паўліны Мядзёлкі

**МЯДЗЕЛ.** У цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка пачалася выстава, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Паўліны Мядзёлкі. На ёй прадстаўленыя кніга ўспамінаў "Сцежкамі жыцця", фатаграфіі, падборка матэрыялаў з перыядычнага друку, прысвечаных Паўліне Мядзёлцы.

**Аддзел інфармацыі.**



# "Балконы і казыркі трымаюцца на чэсным слове"



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Жыхары з вуліцы Б.Хмяльніцкага хвалююцца за стан свайго дома.**



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

**З балкона адваліліся кавалкі бетону і агалілася арматура.**

**МАЛАДЗЕЧНА. Шматлікія скаргі па добраўпарадкаванні дамоў у жыллёвых рамонтна-эксплуатацыйных упраўленнях не прыносяць вынікаў, якіх чакаюць жыхары.**

Менавіта з такой праблемай сутыкнулася і гаспадыня адной з кватэр дома №6-в па вуліцы Багдана Хмяльніцкага **Тамара Суботка**.

– Ужо не першы год мы абіваем парогі камунальнікаў, просім адрамантаваць старыя балконы і казыркі. І ў 2009 годзе пісалі ліст у ЖРЭУ, і ў 2010, але ніякага рамонту няма. Адказалі, што ўсе сілы накіраваны на падрыхтоўку горада да "Дажынак", – распавядае Тамара Фёдараўна.

У год "Дажынак" жыхары дома прачыталі у адной з газет, што ў іх доме зробяць бягучы рамонт. Тады яны супакоіліся і паспадзяваліся, што іх просьбу выканаюць. У 2011 годзе падлаталі дах, але ні казыркі над пад'ездамі, ні балконы не чапалі.

– А над трэцім пад'ездам казырок наогул трымаецца на адным чэсным слове. З яго ўжо даўно адвальваюцца кавалкі бетону, – кажа спадарыня Тамара. – Хочацца верыць, што нашы балконы і казыркі дачакаюцца сваёй чаргі на рэканструкцыю раней, чым абрынуцца.

Жанчыне боязна, што калі-небудзь бетонныя канструкцыі не вытрымаюць і проста рухнуць. Гэта сапраўды небяспечна, бо пад імі ходзяць дарослыя, гуляюць дзеці. Маладая пара, якая нядаўна пераехала ў гэты дом, проста баіцца выйсці на балкон, каб павесіць сушыць бялізну.

– Казыркі псуюцца ад вады, – тлумачыць намеснік дырэктара прадпрыемства "Геастандарт" **Мікалай Петруковіч**. – Узімку ападкі замярзаюць, нагрувашчваюць сабой канструкцыі. З-за гэтага ржавее арматура, якая пры пацяпленні расшыраецца. І паступова бетон разбураецца. Па-добраму, тут трэба ўсё зачысціць і адрамантаваць сучаснымі матэрыяламі. Балконы ў гэтым доме мяне палохаюць больш, чым казыркі. Яны разбураюцца ад сырасці. Каб не было сырасці, неабходна сцены ўцяпляць з вонкавага боку, а не знутры. Візуальна, гледзячы на балконы і казыркі, я магу ацаніць гэты дом як не вельмі здавальняючы. Дом не ў аварыйным стане, але ён патрабуе рамонту.

Пры аглядзе дома спадар Мікалай заўважыў яшчэ і тое, што ў кватэрах зусім не працуе вентыляцыя.

У ЖРЭУ №2 адказалі, што разлічваць на капітальны рамонт ў гэтым годзе жыхарам не варта.

– Сёлета капітальны рамонт дома ў нас не запланаваны. Фінансавання на рэканструкцыю балконаў і казыркоў нават і не разглядалі, таму ніякага станоўчага адказу да снежня даць не магу. Магчыма, рамонт правядзём ўжо ў 2014 годзе, калі з'явяцца на гэта грошы, – кажа начальнік маладзечанскага ЖРЭУ **Валеры Віткоўскі**. – "Дажынкі" ўжо прайшлі, але пакінулі пасля сябе адгалоскі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ПАМЯЦЬ

# Помнік воінам-інтэрнацыяналістам

**СМАРГОНЬ. Яго адкрыццё адбудзецца ў пятніцу, 20 верасня.**

Знаходзіцца помнік на вуліцы Танкістаў, непадалёк ад цэнтральнай бібліятэкі.

– Месца такое абралі, каб воінам-інтэрнацыяналістам было зручна да яго прыходзіць, ускладаць кветкі, – тлумачыць начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Аляксей Апановіч**. – Звычайна яны збіраюцца ў зале райвыканкама. Адсюль да помніка зусім недалёка.

Сам камень апрацоўвалі на станку з дапамогай камп'ютарнай праграмы. Кіраваў гэтым працэсам і займаўся аддзелачнымі працамі ганаровы грамадзянін Смаргоні, скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь **Уладзімір Церабун**.

– Больш за год мы працавалі разам з архітэктарам **Аляксандрам Бажыдаем** над тым, каб помнік з'явіўся, – кажа спадар Уладзімір. – Аднак нашмат больш часу занялі ўзгадненні і дакументацыя, чым сама праца з каменем; камень з Карэліі, "арэхаўскі" называецца.

Помнік воінам-інтэрнацыяналістам складаецца з трох камянёў: падэшва і яшчэ два, злучаныя пасярэдзіне.

– Як мастак я назіраў і за працай тых, хто апрацоўваў камень, – працягвае Уладзімір Церабун. – Трэба было сачыць, каб усё супала. Дарэчы, тут мы сутыкнуліся з цяжкасцямі. Майстра выпілоўвау на абодвух камянях удар ад снарада. Камяні ляжалі асобна і, калі іх злучылі, гэты след згубіўся, бо быў занадта малы. Прыйшлося выпраўляць. Даводзілася сачыць і за тым, каб з кожнага боку каменя спілавалі не больш і не менш, а менавіта столькі, колькі трэба, і пад патрэбным вуглом.

**– Ці працавалі вы раней з камянямі?**

– Даводзілася, але не вельмі шмат. Падчас працы над помнікам трэба было больш кантраляваць, чым самому рабіць. Хаця аднойчы быў выпадак, калі майстар не змог прыйсці, і я раззлаваўся, узяў балгарку і круг, што якраз былі пад рукой, і сам усё парабіў.

**– Як людзі рэагавалі на з'яўленне новага помніка?**

– Мне ўжо давялося пачуць некалькі цікавых думак ад гараджан. Адзін чалавек выказаў меркаванне, што след ад снарада сімвалізуе расстралянае сэрца воіна. Другі – што дзюрка ў камяні нагадвае тунель, праз які пралятае душа чалавека, які адыходзіць у іншы свет, што мы называем вечнасцю.

**– Як прыйшла да вас ідэя паказаць на камяні ўдар ад снарада?**

– Ведаеце, а гэта вось так зверху цюкае. Нельга сцвярджаць, што ў помніку павінна быць канкрэтыка. На маю думку, трэба, каб, гледзячы на яго, узнікалі пэўныя асацыяцыі. Мая першая асацыяцыя – у камень трапіў асколак снарада, які рвануў. Загінулі людзі. Дарэчы, наконт распрацоўкі помніка. Практыка паказвае, што самы першы накід найбольш эмацыйны. Ён і застаецца ў аснове.

**– Ці мае для вас асабістае значэнне праца над гэтым помнікам?**

– Калі гэты помнік хоць крышачку суцішыць боль, утаймуе смутак блізкіх і родных загінулых, то мой абавязак як грамадзяніна, мастака будзе выкананы.

**Настасся РОЎДА.**



Фота зафіксавана Уладзімірам ЦЕРАБУНОМ.

Для таго каб у Смаргоні з'явіўся помнік, спатрэбілася больш за год.

## Тлумачальная запіска

Аснову памятнага знака "Рэха вайны", прысвечанага воінам-інтэрнацыяналістам Смаргоншчыны, якія загінулі пры выкананні воінскага абавязку, уяўляе сабой камень, як напамін афганскіх гор. Пасля выбуху асколак снарада ўпіўся ў гэты камень, забраўшы жыцці маладых воінаў. Той след, што пакінуў асколак, наводзіць жах і напамінае жывым аб тым, што трэба рабіць ўсё, каб ніякіх войнаў не ведала чалавецтва.

Злева ўнізе надпіс: "Воінам-інтэрнацыяналістам Смаргоншчыны, якія загінулі пры выкананні воінскага абавязку"

Насупраць – імёны воінаў, прозвішчы, узрост (гады)

Надпісы і асколак снарада выконваюцца з бронзы і паліруюцца.

Агульная вышыня з пастаментам – 230 сантыметраў.

**Уладзімір Церабун**, скульптар,
**Наталля Церабун**, дызайнер,
**Аляксандр Бажыдай**, архітэктар.

КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

# Як звольніцца з працы, калі ідзеш у войска

**МАЛАДЗЕЧНА. Пытанне прызыву ў войска заўсёды актуальнае сярод маладых людзей, асабліва восенню.**

Некаторыя ўжо паспелі пасля заканчэння навучальнай установы знайсці працу. Менавіта таму хочацца звярнуць увагу на пытанне звальнення работніка ў сувязі з прызывам ці паступленнем у войска.

У адпаведнасці з часткай 2 артыкула 44 Працоўнага кодэкса, працоўны дагавор варта спыняць з-за абставінаў, якія не залежаць ад волі бакоў, а менавіта ў сувязі з прызывам работніка ў войска. Гэта значыць, што, калі работніка прызываюць у войска, яго варта звальняць.

Артыкул 179 Працоўнага кодэкса прадугледжвае, што пры звальненні работніка, які не выкарыстаў ці не выкарыстаў цалкам свой працоўны водпуск, выплачваецца грашовая кампенсацыя. Пры гэтым абгрунтаванне звальнення не мае значэння.

Калі да дня звальнення работнік адпрацаваў частку рабочага года, грашовую кампенсацыю выплачваюць прапарцыянальна адпрацаванаму часу.

Такім чынам, калі да моманту прызыву ў войска работнік не меў працоўнага водпуску, то яму выплачваюць грашовую кампенсацыю.

Заканадаўства прадугледжвае пэўныя гарантыі для работнікаў, якіх прызываюць у войска. Згодна з часткай 1 артыкула 340 Працоўнага кодэкса, работнікам, прызваным ці прынятым на вайсковую службу, выплачваецца выхадная дапамога. Яе памер устаноўлены ў артыкуле 48 Працоўнага кодэкса (не менш за двухтыднёвы сярэдні заробак).

Работнікі вызваляюцца ад працы на час, неабходны для прыпіскі да прызыўных участкаў, афармлення прызыву ці прыёму ў войска, пастаноўкі ці зняцця з воінскага ўліку. Пры гэтым яму захоўваюць сярэдні заробак па месцы працы.

**Ганна КРУК,**
**юрыст.**

АНОНСЫ

## Ідзе юбілейны марафон музычнага каледжа

**МАЛАДЗЕЧНА. Сустрэчы з выпускнікамі Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага будуць адбывацца па суботах да канца гэтага месяца.**

14 верасня запрашаем выпускнікоў народнага аддзялення – баян-акардэон і струнныя шчыпкова-ўдарныя інструменты. 21 верасня – выпускнікоў вакальнага і харавога аддзяленняў. 28 верасня юбілейны марафон працягнуць тры аддзяленні: духавых і ўдарных інструментаў, струнных смычковых інструментаў і музыказнаўства. Адбудуцца святочныя канцэрты-сустрэчы (пачатак у 15.00, вялікая зала каледжа), на якія запрашаем аматараў добрай музыкі.

Урачысты фінал юбілейных святкаванняў чакаецца 4 кастрычніка на сцэне Палаца культуры Маладзечна. 55-годдзе Маладзечанскага музычнага каледжа супадае сёлета з 45-годдзем заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь сімфанічнага аркестра, якім кіруе дырэктар установы, ганаровы грамадзянін Маладзечанскага раёна, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, кавалер ордэна Францішка Скарыны Рыгор Сарока.

**Па інфармацыі музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага.**

ЭКАЛОГІЯ

## Беларусы далучацца да сусветнай уборкі

**Сёлета Беларусь другі раз падтрымлівае міжнародную акцыю "Сусветная ўборка 2013. Зробім!"**

14 верасня добраахвотная акцыя аб'яднае людзей, якія хочуць зрабіць планету чысцейшай. Акцыя не цэнтралізаваная: кожны можа стаць яе арганізатарам у сваім двары, горадзе.

Пра гэта паведаміла прэс-сакратар Цэнтра экалагічных рашэнняў **Вольга Астаповіч**.

Пра тое, як экологі рэкамендуюць падрыхтавацца арганізатарам да правядзення акцыі, чытаеце на сайце rh.by.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаем відавочцаў аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Другога верасня у 21.00 каля крамы "Базар нізкіх цэн" здарылася ДТЗ.**

Сутыкнуліся дзве машыны: адна БМВ, а другая "Форд". Просьба відавочцаў гэтай аварыі звярнуцца ў ДАІ Маладзечанскага РАУС у кабінет 12 ці 18. Тэлефон **74-53-40, 74-53-45**, альбо тэлефон **102**.

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ,**
**выканальнік абавязкаў начальніка ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

УШАНАВАННЕ

## На школах усталююць памятныя дошкі

**АШМЯНЫ. Такім чынам ушануюць памяць ашмянцаў, якія загінулі падчас вайны ў Афганістане.**

Падчас акцыі "Мы помнім" 20 верасня ўсталююць дошкі выпускнікам, якіх пасмяротна ўзнагародзілі ордэнам "Чырвонай Зоркі":

**Сяргею Залатарову**, выпускніку СШ №1, які загінуў 1 лістапада 1986 года,

**Эдуарду Кеду**, выпускніку СШ №3, які загінуў 1 чэрвеня 1987 года,

**Сяргею Клінцэвічу**, выпускніку СШ №2, які загінуў 4 лістапада 1988 года.

**Паводле інфармацыі Ашмянскага райвыканкама.**

ПАСЛЯ НАДРУКАВАНАГА

# У Новай Гуце ўсталявалі зніклыя знакі

**ВІЛЕЙКА. На канфлікт, які здарыўся 31 ліпеня ў невялічкай вёсачцы Новая Гута, у якой яе жыхары выступілі ў абарону вясковай вуліцы ад яе руйнавання лесавозамі, мясцовая выканаўчая ўлада зрэагавала аператыўна.**

Для вырашэння гэтага пытання спатрэбіўся толькі тыдзень. Начальнік Ільянскага ўчастка ДРБУ-162 **Генадзь Шупенька** аператыўна атрымаў загад усталяваць у Новай Гуце дарожныя знакі, якія забараняюць рух цяжкавагавай тэхнікі па вёсцы. 7 жніўня, у наступную сераду пасля канфлікту, на ўездах у Новую Гуту дарожнікі усталявалі адпаведныя дарожныя знакі.

Пасля ўсталявання гэтых знакаў раніцай наступнага дня вяскоўцаў пабудзіў знаёмы гул лесавозаў, якія рухаліся па іх вуліцы. Людзі пачалі абвінавачваць кіроўцаў у нахабнасці, але потым высветлілася, што ўсталяваныя знакі, якія забаранялі рух цяжкавагавай тэхнікі, праз ноч кудысьці наогул зніклі.

Дарожнікам спатрэбілася нямала часу, каб знайсці іх. Невядомыя адцягнулі прымацаваныя да слупоў гэтыя знакі аж за 200 метраў ад таго месца, дзе яны стаялі. У аўторак, 14 жніўня, знойдзеныя знакі дарожныя рабочыя зноў ўсталявалі, а міліцыя папярэдзіла, у тым ліку і вяскоўцаў, пра адказнасць і пакаранне, якое могуць панесці асобы за падобныя дзеянні.

Цяпер лесавозы возяць дрэва вакол вёскі. Праезд там для іх нічым не горшы, чым па вясковай вуліцы. Жыхары Новай Гуты адстаялі свае правы. Рух лесавозам па іх вуліцы закрыты, і гэта вялікая перамога.

**Алесь РАТКЕВІЧ, чытач "РГ".**



Фота Алеся РАТКЕВІЧА.

**Дарожнікі зноў усталявалі ў Новай Гуце знакі, якія забараняюць цяжкавагавай тэхніцы праезд па вясковай дарозе.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць відавочцаў бойкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта шукае сведкаў і відавочцаў бойкі, якая адбылася каля дзвюх гадзін ночы 11 жніўня каля крамы №61 "Родны кут".**

Крама знаходзіцца на вуліцы Францішка Скарыны, 16.

Падчас бойкі грамадзяніну К. нанеслі цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Пераканаўча просім відавочцаў падзеі патэлефанаваць па мабільным тэлефоне **8(029) 124-34-16** ці **8(0176) 77-44-16** ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні следчаму **Тацціяне Васілеўне Трубчык.**

**Маладзечанскі раённы Следчы камітэт.**

ТРАНСПАРТ

## З'явіліся кампосцеры ў аўтобусах

**МАЛАДЗЕЧНА. Білеты пачнуць прадаваць на наступным тыдні.**

– Іх можна будзе набыць у кіёсках "Белсаюздруку", – кажа намеснік дырэктара па перавозках аўтапарка **Віктар Руткоўскі**. – Але туды іх пакуль не завезлі.

Нягледзячы на тое, што ўжо ў 25 аўтобусах устанавілі кампосцеры, кандуктары будуць працаваць ў тым жа рэжыме. З часам і ў астатніх аўтобусах з'явяцца кампосцеры.

Кандуктараў не будзе ў аўтобусах, дзе невялікі наплыў пасажыраў. Гэта, напрыклад, у тройцы, магчыма, у адной чацвёрцы, у аўтобусах 12, 19 і 20 маршрутаў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННЕ

## Пакуль гасцявалі ў сваякоў – з дому ўкралі сейф і ўпрыгажэнні

**МАЛАДЗЕЧНА. Крадзеж адбыўся з 7 на 8 верасня ў вёсцы Вытрапаўшчына.**

– Гаспадары дома паехалі з начоўкай да сваякоў, – распавядае старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**. – Калі яны вярнуліся дадому, то заўважылі, што на стале няма сейфа, у якім было 200 даляраў, а таксама сярэбраных ювелірных вырабаў.

Невядомы вынес украдзенае праз акно.

У доме ёсць шмат бытавой тэхнікі, але зладзей узяў толькі настольны сейф і ўпрыгажэнні.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

МНС ПАВЕДАМЛЯЕ

## Маці паспела выратаваць траіх дзяцей

**АШМЯНЫ. Пажар адбыўся ў вёсцы Міхалконі ноччу ў суботу, 7 верасня.**

У суботу да маці прыехала дачка з дзецьмі, каб дапамагчы выкапаць бульбу. Калі вярнуліся з поля, дачка пайшла класці дзяцей спаць і сама задрамала.

– Маці ж паставіла кіпяціць ваду, а пакуль чакала, што нагрэецца, заснула, – гаворыць галоўны спецыяліст цэнтра прапаганды і навучання Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Іван Мік'янец**. – Прачнулася жанчына ад таго, што ўся хата была ў дыме. Яна разбудзіла дачку, а тая падняла сваіх дзяцей і вывела на двор.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

| Курсы валют НБ РБ | 5.09 руб. | 12.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 030,00 | **9 050,00** |
| Еўра | 11 900,00 | **12 000,00** |
| Злоты | 2 788,24 | **2 833,35** |
| Літ | 3 445,18 | **3 477,23** |
| Расійскі рубель | 270,50 | **274,50** |
| Грыўня | 1 108,86 | **1 106,83** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9030/9080 | **9050/9100** |
| Еўра | 11890/12000 | **11990/12080** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.09 (Цана руб.) | 11.09 (Цана руб.) |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 108500 | **105800** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45000 | **45050** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23500 | **24500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10100 | **10000** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9000 | **9300** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9000 | **9000** |
| **Алей** | 16200 | **15900** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **5200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7600** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8700 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Капуста**, 1 кг | 4800 | **5000** |
| **Морква**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Буракі**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14000 | **14500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23000 | **23000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 7500 | **8500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 8500 | **7500** |
| **Перац**, 1 кг | 12000 | **8500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 19000 | **20000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7000 | **6500** |
| **Грушы**, 1 кг | 12000 | **12500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13000 | **13000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 30000 | **30000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 4000 | **5000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

КРЫМІНАЛ

# Каб адпомсціць, “замініраваў” школы

**МАЛАДЗЕЧНА. У чацвер, 5 верасня, калі павінен быў ісці чацверты дзень школьных заняткаў, невядомы даслаў у 10 школ Маладзечна лісты з пагрозай падарваць навучальныя ўстановы, калі на ўказаны рахунак не будуць пералічаныя 10 тысяч долараў.**


Фота Настассі РОЎДЫ.

Каля маладзечанскай сярэдняй школы №8.

Спачатку такой інфармацыі пацвярджэння не далі. Аддзел адукацыі райвыканкама сказаў, што проста “ідуць вучэнні па грамадзянскай абароне”. У МНС каментаваць сітуацыю адмовіліся.

Аднак настаўніца адной з маладзечанскіх школ, пачуўшы такую афіцыйную версію, засумнявалася ў яе праўдзівасці:

– Гэта не вучэнні, бо ўсіх дзяцей распусцілі па дамах, а настаўнікам сказалі чакаць на вуліцы каля школы. Нікога ў памяшканне не пускаюць. З Мінска едзе група размініравання, якая будзе правяраць усе школы.

### Паведамленні аб замініраванні сапраўды прыходзілі

Пазней начальнік упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама **Аляксандр Данільчанка** пацвердзіў, што пагрозы – не выдумка:

– Днём 5 верасня кіраўніцтву шэрагу школ горада паступілі паведамленні аб тым, што іх навучальныя ўстановы нібыта замініраваныя. Як прынята ў такіх выпадках, неадкладна пачалася эвакуацыя дзяцей і персаналу. У Маладзечна накіраваныя спецыялісты выбуховай тэхнікі, спецыяльнае падраздзяленне па барацьбе з тэрарызмам “Алмаз” МУС Рэспублікі Беларусь і ўнутраных войскаў. Міліцыя і мясцовыя органы ўлады прымаюць усе меры для бяспекі жыхароў.

### Лжэмініраванне было звязданнем рахункаў

Як стала вядома пазней, лжэмініраванне школ Маладзечна было звязданнем асабістых рахункаў паміж двума мужчынамі. Пра гэта паведаміў міністр унутраных спраў Беларусі **Ігар Шуневіч**.

Падазраваны хацеў, каб праваахоўнікі затрымалі яго ворага, які і панёс бы пакаранне. Менавіта ад імя ворага і былі скіраваныя паведамленні аб мініраванні.

Міністр патлумачыў, што такім чынам па гэтай справе застаўся адзін падазраваны – 30-гадовы мужчына.

– У здзяйсненні злачынства ён ужо прызнаўся, – дадаў Ігар Шуневіч. – Выбуховых прыладаў не было. Гэта была фікцыя.

Ігар Шуневіч падкрэсліў, што злачынства раскрылі дзякуючы сумесным дзеянням некалькіх ведамстваў:

– Мы працавалі разам: органы ўнутраных спраў, Следчы камітэт, Дзяржкамітэт судовых экспертыз і пракуратура.

Таксама ў раскрыцці ўдзельнічалі супрацоўнікі КДБ.

### Падазраваны друкаваў пагрозы ў камп’ютарным клубе

Як паведаміла адна з крыніц “РГ”, у аднаго з маладзечанскіх клубаў забралі на праверку камп’ютарную тэхніку. Раней правервылі таксама тэхніку падазраванага і жыхароў пад’езда, у якім ён жыве.

Потым падазраваны прызнаўся, што друкаваў лісты ў камп’ютарным клубе. Яго работнікі сказалі, што звычайна не глядзяць, якія паперы друкуюць кліенты.

Цяпер вядзецца расследаванне.

**Аддзел інфармацыі.**

АБВЯРЖЭННЕ

## Здарэнне 12 мая ў Ласях

**У нумары 27 ад 5 жніўня 2013 года ў публікацыі “На Міншчыне тоне кожны 10-тысячны” ў інфармацыі пра трагічнае здарэнне 12 мая, крыніцай якой было паведамленне старшыні маладзечанскага раённага “Таварыства выратавання на водах” Мікалая Паўлушава, грунтаванае на аператыўнай зводцы органаў МУС, дапушчаныя памылкі ў фактах.**

У газеце было надрукавана, што загінулая была жыхаркай Чысці, не працавала і на момант здарэння была нецвярозай.

На самой справе, паводле ўдакладненай Следчым камітэтам інфармацыі, факты былі наступныя. 12 мая ў Ласях патанула 22-гадовая жанчына. Загінулая была жыхаркай Мінска. Яна працавала на адным з прадпрыемстваў у Заслаўі. Была цвярозая.

Аўтар і калектыў “РГ” прыносяць шчырыя спачуванні сям’і нябожчыцы і просяць у блізкіх прабачэння за дапушчаныя памылкі.

**Рэдакцыя “РГ”.**

КРЫМІНАЛ

## Затрымалі хуліганаў, якія стралялі па аўтобусах

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 8 верасня каля 16.00 у мікрараёне №4 побач з крамай “Птушка”.**

Пра гэта паведаміў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

Тры гарадскія аўтобуса рушылі па сваім маршруце. Калі яны былі каля ляжачага паліцэйскага, пачуліся выстралы і пачало разбівацца шкло.

Мяркуецца, што шкло разбілі з пнеўматычнай ці самаробнай зброі.

Па факце ўзбуджаная крымінальная справа.

Гэтыя дзеянні кваліфікуюцца як хуліганства. За яго пагражае арышт ад трох да шасці месяцаў, абмежаванне свабоды да пяці год ці пазбаўленне свабоды ад аднаго да шасці год.

### Міліцыя затрымала падазраваных

Па інфармацыі “Еўрарадыё”, у той жа дзень міліцыя затрымала хуліганаў. Імі апынуліся 18- і 17-гадовы юнакі. Адзін з іх вучыцца, а другі скончыў вячэрнюю школу, нідзе не вучыцца і не працуе.

Затрыманыя патлумачылі, што стаміліся гуляць на камп'ютары і вырашылі знайсці сабе іншую забаву. Яны надумалі апрабаваць пнеўматычны пісталет, набыты напярэдадні з рук.

Хлопцы выйшлі на балкон шостага паверха і некалькі разоў стрэлілі па вокнах аўтобусаў, якія праходзілі міма.

Маладзечанскі Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СУД

## Вярхоўны суд разгледзіць касацыю на смяротны прысуд

**ВІЛЕЙКА. 17 верасня Вярхоўны суд разгледзіць касацыю на смяротны прысуд жыхару Вілейкі, асуджанаму за двайное забойства, паведамілі ў ВС БелаПАН.**

Нагадаем, што жыхар Вілейкі быў прысуджаны да смяротнага пакарання за двайное забойства Гродзенскім абласным судом 12 чэрвеня.

Злачынства было здзейсненае 5 жніўня 2012 года. Аб жорсткім забойстве ў кватэры шматпавярховага дома ў Гродне праваахоўным органам стала вядома 7 жніўня. Следча-аператыўныя групы абласных упраўленняў Следчага камітэта і УУС, а таксама раённых падраздзяленняў следства і міліцыі выявілі з множнымі колата-рэзанымі ранамі ў вобласці шыі, спіны і жывата труп жанчыны 1991 года нараджэння, жыхаркі Жлобіна.

Пры правядзенні далейшага агляду жылога дома, каля пад’езда, у смеццевым кантэйнеры, былі знойдзены расчлянёны труп яшчэ аднаго чалавека – мужчыны 1989 года нараджэння, які з’яўляўся гаспадаром кватэры, у якой адбылося забойства.

У здзяйсненні злачынства прызнаны вінаватым муж забітай жанчыны – жыхар Вілейкі 1990 года нараджэння. Матыў злачынства – рэўнасць. Мужчына быў затрыманы 7 жніўня ў цягніку Гродна – Баранавічы.

**Паводле БелаПАН.**

СЛУЖБА 101

## Падчас пажару абрынуўся дах дома

**АШМЯНЫ. У вёсцы Варні 4 верасня каля 22.00 адбыўся пажар, падчас якога загінуў гаспадар.**

У МНС пазваніў сусед. Калі прыехалі пажарныя, дом быў цалкам у агні. Яго дах абрынуўся. Выратавальнікі знайшлі ў адным з пакояў цела загінулага 48-гадовага гаспадара. Яго жонка была на працы.

Па словах суседзяў, мужчына ў той вечар быў нецвярозы.

Хутчэй за ўсё, пажар адбыўся з-за неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні.

Пра здарэнне расказаў галоўны спецыяліст цэнтра прапаганды і навучання Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Іван Мік’янец**.

**Настасся РОЎДА.**

## Гарэў дом у вёсцы Гірыны

**МЯДЗЕЛ. 7 верасня каля 9.30 у МНС паведамілі аб задымленні ў доме ў вёсцы Гірыны, што ля райцэнтра.**

Пра здарэнне паведаміў мужчына, які праязджаў паблізу на машыне.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, дом быў ахоплены полымем.

– У доме згарэў дах, выгарала веранда і прыхожая, – паведаміў інжынер інспекцыі Дзяржпажнагляду **Дзяніс Малько**.

Дом знаходзіцца на водшыбе, нежылы, быў адключаны ад электрычнасці. Адна з версій здарэння – падпал.

**Аддзел інфармацыі.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Зняў грошы з чужой карткі

**МАЛАДЗЕЧНА. Мужчына даведаўся пароль чужой банкаўскай карткі і зняў грошы.**

Адбылося гэта 13 мая каля 21.00. Мужчына прыйшоў у банкамат па вуліцы Будаўнікоў і зняў з чужой карткі 500 тысяч рублёў. Аднак гэтых грошай яму не хапіла, і ён вырашыў зняць яшчэ 170 тысяч рублёў.

Калі пацярпелы звярнуўся ў міліцыю, мужчына адразу прызнаў сваю віну і ўсё вярнуў.

З пацярпелым яны памірыліся. Суд улічыў тое, што на працы і па месцы жыхарства мужчына характарызуецца станоўча, не быў раней судзімы, таму яго вызвалілі ад крымінальнай адказнасці.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

# Колькі беларус плаціць за “бясплатную” медыцыну ?

**Якія сумы ідуць з кішэні падаткаплацельшчыка на ахову здароўя і што трэба зрабіць, каб павысіць у Беларусі якасць аказання медыцынскіх паслуг, распавёў доктар-рэаніматолаг і магістр гуманітарных навук Андрэй Вітушка.**

**– Колькі на самой справе кожны грамадзянін нашай краіны плаціць за “бясплатную” медыцыну ?**

– У адкрытых крыніцах можна знайсці сумы расходаў дзяржавы на ахову здароўя. Напрыклад, міністр фінансаў **Андрэй Харкавец** заявіў, што ў 2013 годзе на ахову здароўя будзе выдаткавана ў доларавым эквіваленце каля 2,9 мільярда долараў.

Ёсць яшчэ дадзеныя аб выдатках на ахову здароўя розных краін у працэнтных суадносінах ад памеру валавога ўнутранага прадукту. Але гэта не зусім карэктнае параўнанне, бо ВУП у кожнай краіне розны. Больш аб'ектыўным будзе паказчык выдаткаў у пераліку на душу насельніцтва. Міжнародныя структуры аперыруюць менавіта ім.

Па дадзеных Сусветнага банка, у 2011 годзе ў сярэднім на ахову здароўя кожнага грамадзяніна Беларусі было выдаткавана 307 долараў (5,3% ад ВУП). У Эстоніі гэты паказчык быў у тры разы вышэйшыс – 987 долараў на чалавека (6% ад ВУП), у Літве – 875 (6,6%), у Латвіі – 841 (6,2%).

Гаворачы пра лічбу выдаткаў у 307 долараў на кожнага беларуса, трэба памятаць, што гэтыя грошы не ўзяліся ў дзяржавы з ніадкуль – яны патрапілі да яе з кішэняў падаткаплацельшчыкаў.

Але гэта толькі прыблізныя дадзеныя. Закладзеныя ў план бюджэту выдаткі і рэальна выдзеленыя і асвоеныя сумы могуць не супадаць. Да прыкладу, на сельскую гаспадарку ў Беларусі ў 2013 годзе планавалася выдаткаваць 1,6 мільярда долараў. Але з улікам дадатковых субсідый гэтая лічба можа вырасці да 3,5 мільярда долараў.

Падобнае можа адбывацца і ў ахове здароўя. Нядаўна банк БелВЭБ пагадзіўся выдаць крэдыт пад гарантыі ўрада на мадэрнізацыю завода “Белмедпрэпараты”. Калі праект не будзе рэалізаваны (а такое здараецца ў бізнесе), выдаткі лягуць на плечы ўрада і падаткаплацельшчыкаў.

**– У Прыбалтыцы, мяркуючы па паказчыку Сусветнага банка, на ахову здароўя грамадзян траціцца ў разы больш, чым у Беларусі. Выходзіць, якасць нашай медыцыны значна горшая?**

– Беларусь імкнецца развіваць ахову здароўя, набліжацца да еўрапейскіх стандартаў. У нас рамантуюцца бальніцы, купляецца новае абсталяванне, мы прэтэндуем на правядзенне аперацый сусветнага ўзроўню.

Пры гэтым трэба разумець, што новае абсталяванне (такое ж, як у бальніцах Літвы і Эстоніі) завозіцца ў асноўным з Еўропы або ЗША. А значыць, патрабуюцца вялікія выдаткі на яго куплю і змест.

Калі Беларусь хоча дасягнуць еўрапейскіх стандартаў аховы здароўя, трэба хаця б наблізіцца да ўзроўню расходаў на медыцыну, якія існуюць у бліжэйшых еўрапейскіх краінах.

Пакуль нам удаецца зводзіць канцы з канцамі, да прыкладу, за кошт таго, што аплата працы ў Беларусі ніжэйшая.

**– На што ідуць 2,9 мільярда долараў запланаваных на ахову здароўя ў гэтым годзе?**

– Да паліклінік і бальніц даходзіць не ўсё. Напрыклад, у расходную частку бюджэту на ахову здароўя ўваходзяць і выдаткі на медыцынскую адукацыю. Сярэднюю спецыяльную, вышэйшую і паслядыпломную адукацыю медыкаў курыруе Міністэрства аховы здароўя.

Некаторая частка грошай ідзе на фінансаванне санітарных службаў, якія сочаць за чысцінёй паветра, глебы, праводзяць праверкі, кантроль за інфекцыйнымі захворваннямі.

Частка расходаў ідзе на фінансаванне чынавенства.

Тыя грошы, якія трапляюць у лячэбныя ўстановы, дзеляцца наступным чынам: 30% накіроўваецца на паліклінікі, астатняе – на бальніцы.

Абяцана, што з гэтага года на паліклінікі будзе ісці 40%. Эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя адзначаюць, што ў Беларусі вельмі высокія выдаткі на стацыянарнае звяно (бальніцы). У еўрапейскай і амерыканскай медыцыне, наадварот: да 80% выдаткаў ідзе на амбулаторнае звяно (паліклінікі). Гэта танней і больш эфектыўна.

Пакуль жа Беларусь займае лідзіруючыя пазіцыі ў свеце па колькасці бальнічных ложкаў на душу насельніцтва, хоць і імкнецца іх скарачаць.

**– Чаму так адбываецца ?**

– Гэта спадчына савецкай сістэмы. Яна сапраўды была эфектыўнай, але для тых умоў, у якіх зараджалася і існавала. У мінулым стагоддзі асноўнай праблемай былі інфекцыі. Каб эфектыўна з імі спраўляцца, трэба было вялікую колькасць людзей ізаляваць і ў такіх умовах вылечваць.

Да таго ж быў фактычна неабмежаваны доступ да рэсурсаў. Бальніц можна было пабудаваць, колькі трэба.

Але з часам інфекцыі страцілі сваю актуальнасць. Цяпер дамінуюць неінфекцыйныя паталогіі. Асноўныя прычыны смяротнасці грамадзян Беларусі – хваробы сэрца і анкалогія.

Лячэнне ад інфекцыйных захворванняў у бальніцах займае пэўны тэрмін – сёння пацыент паступіў, праз месяц яго выпісалі. А неінфекцыйныя захворванні патрабуюць індывідуальнага падыходу і лячэння. З ішэмічнай хваробай сэрца, да прыкладу, чалавек жыве пастаянна, яму патрэбен доктар, які ўсё ведае пра стан здароўя пацыента, і рэгулярны кантроль у паліклініцы. Таму і трэба развіваць амбулаторнае звяно.

**– Вядома, што на Захадзе ў бальніцах пасля аперацый доўга не ляжаць.**

– Таму што дорага. У нас пры родах, калі ўсё працякае нармальна, ляжаць ад 4 да 7 сутак. У ЗША пры родах ляжаць максімум двое сутак.

**– Што дало б пераразмеркаванне сродкаў?**

– Яно магло б палепшыць матэрыяльную базу паліклінік. Але праблема ў тым, што ў нашых дактароў няма матывацыі добра працаваць. Ва ўсіх аднолькавая зарплата, якая практычна не залежыць ад колькасці прынятых пацыентаў. У галоўнага доктара даход у большай ступені залежыць не ад якасці яго працы, а ад таго, колькі зэканомлена сродкаў. Сістэму матэрыяльнага стымулявання трэба мяняць.

**– Ці варта Беларусі, на ваш погляд, рухацца ў бок платнай медыцыны ?**

– У Беларусі медыцына павінна быць рознай, але нязменна якаснай. Як паказваюць апытанні, 30% мінчан гатовыя плаціць за лячэнне, і 70% час ад часу гэта робяць, у тым ліку і па “шэрых” схемах у дзяржмедыцыне. Аднак прыватная медыцына развіваецца слаба, паколькі ёсць сур'ёзныя бар'еры пры ўваходзе на гэты рынак: ліцэнзіі, розныя патрабаванні і ўзгадненні, у тым ліку цэн з Міністэрствам аховы здароўя.

Лібералізацыя рынку медыцынскіх паслуг павялічыла б колькасць суб'ектаў камерцыйнай медыцыны, падвысіла б канкурэнцыю паміж імі, што прывяло б да росту якасці паслуг. У выніку ахвотныя грамадзяне сталі б лячыцца за свае грошы, зняўшы, такім чынам, нагрузку з дзяржаўных паліклінік і бальніц.

Павысіць якасць аховы здароўя сёння можна, павялічыўшы агульную суму выдаткаў на яго пры адначасовай змене механізму фінансавання і размеркавання сродкаў унутры галіны.

**P.S. Ад “Заўтра тваёй краіны”: чым больш закрытая і непадсправаздачная грамадзянам сістэма аховы здароўя, тым больш нізкай якасці будуць паслугі і тым больш будуць выдаткі на яе ўтрыманне. Калі б людзі ведалі, колькі ў рэчаіснасці яны выдзяляюць грошай на сваё лячэнне, гэта павысіла б якасць і адказнасць беларускай медыцыны. Вызначэнне слабых месцаў і дакладнай сумы, якая ідзе на ахову здароўя, магло б стаць пунктам адліку для рэальнай ацэнкі маштабу і вызначэння напрамкаў рэформаў, у якіх мае патрэбу беларуская медыцына. У рамках “Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі” эксперты маглі б падказаць, досвед якіх краін быў бы найбольш эфектыўны для Беларусі.**

**Андрэй ГАЛЕНКА,**
**“Заўтра тваёй краіны”.**

АСОБА

# Паўлінка з Будслава


Фота з архіва Мядзельскага музея народнай славы.

Паўліна Мядзёлка ў маладосці.


Фота з архіва Мядзельскага музея народнай славы.

Паўліна Мядзёлка. 1968 год.

**МЯДЗЕЛ. 12 верасня споўнілася б 120 год ад дня нараджэння Паўліны Мядзёлкі – першай выканаўцы ролі Паўлінкі ў пецярбургскай прэм'еры аднайменнай камедыі Янкі Купалы, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, педагога.**

У Будславе па вуліцы Зялёнай стаіць драўляны дом – ён цалкам адпавядае назве вуліцы, пафарбаваны ў зялёны колер. Тут доўгі час жыла Паўліна Мядзёлка. Цяпер у гэтай хаце жыве Соф'я Грышкевіч – жонка стрыечнага брата Паўліны Часлава. Ёй ідзе 80-ы год.

**– Соф'я Міхайлаўна, якое першае ўражанне было ад знаёмства з Паўлінай Мядзёлкай?**

– Якое можа быць уражанне – як свае людзі. Харошая, разумная жанчына, яна нам рада была. Я з Мосара родам, ажаніліся там з Чаславам. Муж прывёз сюды ў 1957 годзе. А пасяліцца давялося ў доме, дзе жыла Паўліна з маці.

**– А перад тым як пазнаёміцца з Паўлінай, муж ці расказваў вам пра яе?**

– Расказваў, і пра тое, што першую ролю іграла ў п'есе "Паўлінка", узгадваў.

**– І як вы жылі?**

– Чыста адна сям'я была. Яны з маці ад вуліцы, мы ў другім канцы жылі. Дапамагалі, даглядалі – мы ж маладзейшыя. Матка Паўліны жыла 96 год, яе даглядзела, і Паўліну даглядзела. Яна працавала настаўніцай у школе, потым пайшла на пенсію. Але так жа ўсюды хадзіла, музыку выкладала, і дзеці хадзілі сюды. Яна лекцыі пра музыку ў клубе чытала, столькі пласцінак было: і Бетховена, і Моцарта, і рускіх кампазітараў. Бывала, што зімой Паўліна ў вёсцы жыла, але найчасцей на зіму ехала ў Маскву. Там цяплей: вядома ж, хата старая. Шкадавала яна майго мужа, клапацілася пра нас. Паедзем куды, пакінем дзяцей пры ёй. Клапатлівая, адным словам, была.

**– Дзяцей вашых любіла?**

– Так. Хадзіла і ў школу на лінейку да іх. Іграць на піяніна вучыла і Казіміра, і Станіслава. Але ж не выйшлі яны за музыкантаў. Вучыла іх культуры: ідуць, папытаюцца: "Як здароўе", "Добры дзень", так з іх цешылася. І ў лістах вучыла: "Казік, так трэба пісаць".

**– Што за чалавек была Паўліна Мядзёлка?**

– Культурны ва ўсім, такі далікатны. Надта ж яна чалавек вучоны, музычны была – для гэтага, пэўна, створаны. Не тое, каб тамака бульбу капаць ці якую вясковую справу рабіць, – толькі для культуры, для пісання. Праўда, ёй і рукі балелі: самай вайной была ў Маскве і рукі памарозіла.

Вельмі любіла беларускую мову. Стане нейкі па-руску гаварыць, а яна яму: "Што, зрасіяніў?" І мне іншы раз заўвагу зробіць: вядома, толькі прыйшла я, тут слова польскае ці рускае. Вучыла мяне: "Трэба па-беларуску гаварыць. Мы ж беларусы". Яна за Беларусь стаяла, па турмах многа сядзела.

А столькі сяброў у яе было! Адусюль ішлі лісты: з Польшчы, з Расіі. Пісьменнікі да яе прыязджалі: Уладзімір Караткевіч і іншыя.

Культуры людзей навучала: і моладзь, і старэйшых. Па суседстве мужчына жыў: вылаецца, а яна колькі разоў яго дакарала: "Ты што, перад дзецьмі табе не сорамна". Хто што благое зробіць – яна маўчаць не будзе, у вочы скажа, павучыць.

**– Чым любіла займацца?**

– Любіла кветкі садзіць. Гладыёлусы ўсялякіх сартоў купляла: і чорныя, і жоўтыя. Зэдлік возьме, сядзе і поле – ёй задавальненне. Летам кошычак возьме – і ў грыбы ідзе. Асабліва рыжыкі любіла.

Сабачка маленькі рабенькі ў яе быў, Джойка. След у след за ёй хадзіў. У Маскву Паўліна як паедзе, пасылку шле. І дзецям нашым да Новага года падарункі, і кілбасу сабачку. І ў лістах пыталася, як той маецца.

**– Ці расказвала пра першую пастаноўку "Паўлінкі"?**

– Расказвала, як было ўсё, як людзі хвалілі. Гэткая яна ж тады была зусім маладзенькая. А там у ролі і цалавацца трэба было.

Янка Купала быў закаханы ў Паўліну. А яна нешта яму адмовіла. Потым за Тамаша Грыба выйшла замуж – надта пекны быў. Усяго тры гады замужам была, і тое – то ён, то яна па турмах. Так лёс склаўся. З сёстрамі Янкі Купалы, з яго пляменніцай потым яны сябравалі. І жонка яго Уладзіслава добра адносілася да яе.

**– Пад кіраўніцтвам Мядзёлкі "Паўлінку" і ў Будславе ў 1951 годзе ставілі...**

– Так. Некаторыя з акцёраў і зараз у Будславе жывуць. Яна не толькі п'есу ставіла, але і хорам кіравала, першыя месцы займалі заўсягды.

**– Яна не шкадавала, што ёй у Будслаў з Масквы давялося пераехаць?**

– Тут жа маці адна засталася, то яна ў 1947 годзе мусіла сюды прыехаць. Бо яна трэслася над маткай, як невядома што. Удваіх апрануцца, пад ручкі і пойдуць гуляць па парку.

**– Ці чыталі вы яе кнігу ўспамінаў "Сцежкамі жыцця"?**

– А як жа. Атрымалі кнігу пасля яе смерці. Яна так хацела патрымаць яе ў руках, але не паспела. У Глыбокае, у Казань, у Маскву яе сябрам кніжкі адаслала, адрасы яна яшчэ напісвала, каму выслаць.

**– Пісалі, што там шмат чаго цэнзура выкрасліла...**

– Ай, тамака многа ўбралі. Яна нават не хацела выдаваць. Так перажывала, што самае галоўнае, самае цікавае паўбіралі.

**– Людзі ў Будславе цяпер ці помняць Паўліну?**

– Помняць. Вось **Антон Паўлоўскі** казаў: іду на могілкі да жонкі, стану і з Паўлінай пагавару. Ды многія ўспамінаюць. Яна была дэпутатам колькі гадоў. Была дзелавая, што пабудавала, што памагчы каму магла. Дамаглася, каб парк пасадзілі перад касцёлам. Дзіцячую пляцоўку зрабіла. Тады садкоў то не было, дзяцей не было дзе дзяваць. Школа, вуліца яе імя носяць. І кафэ, што нядаўна з'явілася, "Паўлінка" называецца.

**– Што з рэчаў Паўліны цяпер у хаце засталося?**

– Дык тады ж паналяталі ўсе чыста, бралі хто што хацеў – музеі ў Мінску, у Маладзечне. І ў школу кнігі ўсялякія аддала, адзежу, крэслы ў школьны музей. Піяніна засталося, фатаграфіі. І піяніна хацелі забраць у Мядзел. Кажу, няхай будзе памятка – у хаце стаіць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПРАФЕСІЙНАЕ МАЙСТЭРСТВА

## Адна прычоска – дзве бутэлькі лаку

**ВІЛЕЙКА. У панядзелак, 9 верасня, у прафесійна-тэхнічным каледжы сярод навучэнцаў прайшоў конкурс прафесійнага майстэрства.**

Навучэнцы рабілі прычоскі, макіяж і выразалі ўзоры на агародніне і садавіне.

Удзел прымалі дзве каманды "Чараўніцы (Кудесники)" і "Чарадзеі". У кожнай былі стылісты, дызайнеры, цырульнікі, візажысты і кухары.

Кожнай камандзе неабходна было прадставіць сваю мадэль, якой трэба было самім прыдумаць адзенне, прычоску і макіяж. І ўсё гэта рабілася на хуткасць.

Пакуль стылісты і цырульнікі рыхтавалі сваю мадэль, кухары приступілі да карвінгу – разьбы па агародніне і садавіне. Прадстаўніцы абедзвюх камандаў прайшлі тэст на ўвагу. Для гэтага ім паказвалі фрагмент фільма ў 3D-фармаце, а потым задавалі пытанні.

– Камандам спатрэбілася прыкладна 40 хвілін, каб падрыхтаваць сваю мадэль, – кажа педагог-арганізатар каледжа **Святлана Мацукевіч**.

Грошы на лак для валасоў і касметыку набывалі за кошт каледжа. Як расказала педагог-арганізатар, на адну мадэль вілейскія цырульнікі вылілі прыкладна дзве бутэлькі лаку.

– Прычоскі атрымаліся прыгожыя. Можна сказаць, што ў навучэнцаў быў творчы парыў. Шчыра кажучы, калі б я ўбачыла дзяўчат з такімі прычоскамі ў горадзе – вельмі б здзівілася, – дзеліцца сваімі ўражаннямі спадарыня Святлана.

Журы вырашыла даць першае месца камандзе "Чарадзеі". Пераможцам уручылі чайны сервіз, а ўсім астатнім – штодзённікі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**


Фота забяспечана Святланай МАЦУКЕВІЧ

На адну прычоску вілейскія маладыя цырульнікі вылілі дзве бутэлькі лаку.

СВЯТЫ

## У Вязынцы адсвяткуюць Багач

**МАЛАДЗЕЧНА. 21 верасня студэнцкае этнаграфічнае таварыства і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашаюць у Вязынку адзначыць традыцыйнае восеньскае свята Багач.**

Пачатак апоўдні.

На свяце будзе шмат музыкі, майстар-класы, кірмаш, гульнёвыя пляцоўкі. Для гасцей падрыхтуюць некаторыя традыцыйныя стравы. Можна будзе патанцаваць народныя танцы.

**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРСЫ

## У Мядзеле збіралі пазлы на хуткасць

**МЯДЗЕЛ. На базе Мядзельскай СШ №1 7 верасня прайшоў конкурс па збіранні пазлаў. Удзельнічалі ў ім прадстаўнікі працоўнай моладзі – было пяць чалавек.**

Першай сабрала пазл педагог-арганізатар гімназіі-інтэрната Мядзела **Анастасія Гансецкая**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

УСПАМІНЫ ЖЫХАРКІ ІЛЬЯНШЧЫНЫ

# Па-царску жаніліся, жылі па-сялянску

*Працяг. Пачатак у №№35, 36.*

**ВІЛЕЙКА. Ішло жыццё маіх бацькоў так: то нараджэнне, то пахаванне. Усяго нас, дзяцей, было 12. А ў жывых засталося толькі чацвёра.**

Маці зняла з сябе пінжачок, загарнула малога, завязала яму на галоўку нейкі шматок і пайшла пад вечаровы шум яловых галін. Натоўп, які ціха назіраў карціну, паволі разыходзіўся, кожны са сваімі думкамі ўладкоўваўся на свае нары, каля сваіх дзяцей...

Грукат пачаў аддаляцца. Карнікі накіроўваліся на ўсход. На гэты раз усе ўцалелі. Сем'і адчулі, што небяспека мінула і можна вяртацца ў вёску.

У гэты момант хтосьці заўважыў, што паміж невысокіх, але густа размешчаных ялінак з'явілася жаночая постаць, якая перад сабой несла нейкі скрутак. Кожны адарваўся ад сваёй справы і, як па камандзе, кінуўся насустрач. Гэта была Ніна са сваім Шуркам. Тут і бабуля праслязілася. Яны абняліся і расцалаваліся.

Муж Ніны быў партызанам, звалі яго Аляксандр. Вось і сынка яна назвала ў гонар бацькі. Толькі з вайны старэйшы Аляксандр не вярнуўся, загінуў. Ніна заўсёды запрашала нашых вяскоўцаў наведаць яе дом. Я таксама ўжо дарослай пабывала ў яе. Скардзілася яна на галаўны боль. Часта лячылася то ў мясцовай бальніцы, то Шурка забіраў яе ў Мінск. Дачакалася ўнукаў і памерла, прытуленая рукой сына.

А ці свяціла сонца ў тыя дні, месяцы, гады, пакуль цягнулася крывавая бойка?

Не, не свяціла! Неба было зацягнутае чорнымі хмарамі, паміж імі з грохатам і свістам праносіліся самалёты, пакідаючы за сабой белыя палосы.

Стагналі над невыносным грузам. Недзе нешта заўсёды ўзрывалася і грукала. Я не прыпомню зялёных лугоў і квітнеючых траў. Усё нібы вымерла.

### Вогненная трагедыя Брыгідава

На зіму 1943 года партызаны перабраліся ў свае лясныя кватэры. Пабудавалі зямлянкі, размясцілі сваіх людзей. Шпіталь пакінулі на хутары ў Канстанціна Шахрая.

Гэта было на ўскрайку лесу. Небяспечнае месца. Як пазнаць самае небяспечнае месца? Чым яно абазначаецца? Ніяк не згладзіцца з памяці эпізод з жыцця цёткі Вікці. Цётка Вікця, маміна стрыечная сястра, жыла ў вёсцы Брыгідава. Вечарам сусед прынёс паведамленне з Навасёлак, што сваяк просіць дапамогі. Цётка Вікця павінна накіраваць аднаго са старэйшых хлапчукоў на адзін дзень пасвіць кароў. Пытанне абмеркавалі на сямейным савеце, будзе весялей, калі пойдуць двое. Адольфіку каля дзевяці, а Геніку восем. Самыя пастушкі. Толькі з умовай, што цётка Вікця павінна даставіць на месца прызначэння і асабіста перадаць з рук у рукі сваяка "рабочую сілу". Так і зрабілі. На досвітку маці адвяла хлапчукоў па прызначэнні.

Але што гэта? На ўскрайку лесу, проста перад ёю, лясную зnative затворам, прыбліжаецца ўзброены фашыст. Ён упіраецца дулам карабіна проста ў Вікціны грудзі. Ён нешта тлумачыць пасвойму. Не дае зрабіць ніводнага кроку наперад. Не аслабляючы сваіх намаганняў, немец прыціскае змярцвелае цела спіною да дрэва. Цётка Вікця нічога не можа зразумець. Яна, плачучы, паказвае ў бок вёскі за лесам, што там яе чакаюць чацвёра малых. Але салдат спакойна вымаўляе два словы: "Кіндэр капут". Так здзекліва, то прыпадымаючы крыху ўверх, то зноў прыкладаючы да грудзей ствол.

А як затрашчаў паблізу матор грузавога аўтамабіля, немец штурхануў ствалом жанчыну далей ад дарогі ў глыб лесу, вінтоўку закінуў на плячо і выйшаў насустрач машыне, на якой было многа ўзброеных, да каторых далучыўся апошні.

Калі цётка Вікця выйшла на другі бок лесу, то на месцы яе вёскі дагаралі галавешкі, а ў адным будынку дагаралі костачкі яе дзетак з дзясяткамі аднавяскоўцаў. Гэта было 4 мая 1943 года. Цётка Вікця, Адольфік і Генік засталіся жыць.

Пераletавалі, паразімавалі і зноў блакада. Зноў мы ў лесе. Трымаемся сем'ямі. Зноў стогне зямля пад коламі цяжкай тэхнікі. Партызаны арганізавана зняліся са сваіх месцаў, забралі хворых і паданіся да берагоў возера Палік.

Немцы, прадбачачы небяспеку, выгналі з хаты ў Батурыне сям'ю Арцішэўскіх з пяці чалавек: маці, бацьку і трое непаўналетніх дзяцей і загадалі ісці ім наперадзе, узяўшыся за рукі. Не паспела сям'я зрабіць некалькі крокаў, як раздаўся выбух.

Старэйшыя Арцішэўскія загінулі на месцы, а дзецям – Броніку з Аняй – пасекла асколкамі ногі. Адзін хлопчык не пацярпеў, звалі яго Вітэк. Ён замяніў малым бацькоў.

### Доўгачаканае вызваленне

На Паліку загінула шмат партызанскіх байцоў. Вярталіся па аднаму, знямоглыя, схудненыя. З двух нашых радыстаў вярнуўся адзін Коля Ваданосаў, а Сашку Несцяровіча ён пахаваў на беразе возера Палік.

Хутка прыблізіўся фронт, і мы з кветкамі сустракалі вызваліцеляў. Уцалелыя партызаны ўступілі ў рады Савецкай арміі. Дабравольна пайшла ваяваць і мая старэйшая сястра Ніна. Яе прызначылі зенітчыцай.

Вайна працягвалася. Стала аднаўляцца мірнае жыццё на вызваленай тэрыторыі. Пачалі дзейнічаць сельскія Саветы, адкрываліся клубы, шукалі будынкі для школы. Першага верасня 1944 года ахвотных селі за парты.

Бацьку запрасілі ў Ільянскі раён узначальваць страхавы аддзел. Ён забраў з сабою мяне і Ваню. Я павінна пайсці ў шосты клас, а Ваня – у пяты. Валодзя з мамай засталіся ў вёсцы Дварэц Хаценчыцкага сельсавета. Ішоў набор у Мардасоўскую пачатковую школу. Ніна Еўдакімаўна размяркоўвала вучняў па іх дасведчанасці. Валодзю праз тыдзень вучобы перавялі ў другі клас. Здавалася, што ўсе беды скончыліся. Засталося дачакацца поўнай перамогі над лютым ворагам. Мы закватаравалі ў Гаўрылікаў.

Толькі хутка Ваня вярнуўся дамоў, бо захварэла мама і не было каму дагледзець гаспадарку. У гаспадарцы быў конь і карова, іх трэба было шанаваць. Ваня дачакаўся, пакуль у Хаценчыцах не стала расці школа, дзе ён закончыў сем класаў. Далей Ваня пайшоў па механізацыі. Спачатку быў кінамеханікам, а потым скончыў Жлобінскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Я хадзіла ў шосты клас Ільянскай школы. У класе нас было не вельмі многа. Усе мы былі пераросткі, але гэта не мела ніякага значэння. Поспехі залежалі ад розных абставін. Большасць з нас не хацелі быць у ліку горшых. У асноўным вучні былі мясцовыя, толькі некалькі чалавек з далейшых вёсак.

Пятнаццатага снежня ў маім жыццёвым календары застаўся чорнай плямай. У гэты дзень я не дачакалася бацькі з работы. Гаспадыня параіла схадзіць да Анюты Буркевіч (у яе хаце размяшчалася кантора) і даведацца, дзе затрымаўся бацька. Я пастукала ў дзверы, і цётка Анюта з нейкім заклапочаным тварам паведаміла, што яшчэ днём прыходзіў міліцыянер, надзеў бацьку на рукі жалезныя штукі і забраў з сабою. З таго часу пра бацьку ніхто ніякіх звестак нам не паведаміў. Пабачыць не дазволілі, адвезлі невядома калі і куды...

### У самаробных "бурках"

Гаўрылічыха была мачахай для Валодзі і Шуркі, але і мяне яна не адкінула ад сваёй сям'і. Я пражыла ў іх да канца навучальнага года.

З Валяй Крэнь я сядзела за адной партай, і яна іншы раз цікавілася, ці частуе мяне гаспадыня салодкім чаем. Я маўчала або прызнавалася, што ў нас ніколі няма цукру. Цётка Ганна вельмі шкадавала сваіх пасынкаў, а за адно і мяне лічыла сіратой. Калі наступілі вялікія маразы, а я не мела цёплага абутку, то яна адрэзала ад старой ватоўкі рукавы, неяк закругліла ў насах, зашыла і назвала гэты абутак буркамі, праўда, без галёшаў.

Аднойчы я зайшла ў магазін лягсага. За прылаўкам працаваў мужчына. Ён глянуў на мае ногі і, калі менеі стала пакупнікоў, паклікаў да сябе. Раптам знік за дзвярыма з левага боку ад прылаўка. Я стаяла ў чаканні невядомасці. Мужчына вярнуўся з пакункам і сказаў: "Вазьмі свае галёшы, а заўтра прынясеш грошы". Я падзякавала. Праўда, разлічылася толькі праз некалькі дзён. З гэтым мне дапамагла мая гаспадыня Ганна Гаўрылік. А ў торбачцы, у якой я насіла свае падручнікі і сшыткі, іншы раз знаходзіла драбок цукру. Гэта быў клопат Валі Крэнь. Яе маці працавала ў магазіне. Цукар тады размяркоўвалі па спісах для службоўцаў.

Як многа вакол спагадлівых людзей. Бліжэй да восені вярнуўся з фронту паранены гаспадар Іван Гаўрылік. Цётка Ганна прапанавала пашукаць іншае месца для жылля.

Мама даручыла гэту справу вырашыць самастойна. Я ішла ў нікуды. Неяк побач аказалася дзяўчынка з меншага класа. Загаварыла, пацікавілася: "Ну, ці добра адпачывалася на канікулах?" "Добра", – адказала я. – Але вось зараз мне няма куды ісці. "Чаму? – здзівілася яна. – Хадзем да нас! Мама не прагоніць!" І мы прыйшлі. Я засталася на цэлы год у сям'і Андрэя Чарапка і яго жонкі Надзеі. Спала я на адным ложку з Лідай, яна працавала настаўніцай ў Залессі. А Галя вучылася ў школе. Мы пасябравалі.

Я кожную суботу хадзіла дамоў за прадуктамі, а ў нядзелю вярталася назад. Да Шчокаўшчыны ішла разам з Мішам Гарбацэвічам, а далей нашы дарогі разыходзіліся. У нядзелю зноў у назначаны час мы сустракаліся каля Шчокаўшчыны і далей ішлі разам. Міша быў гаваркі, і гісторый у яго хапала на ўвесь дарожны час.

Тым часам сястра Ніна вярнулася з фронту. Яна стала працаваць ваенруком у Латыгальскай школе, зарабляла грошы. Да вясны паабяцала купіць мне ровар. І купіла.

Пачыналіся экзамены за сёмы клас. Трэба было з'явіцца да дзявятай гадзіны на экзамен па рускай мове. Мама сказала: "На ровары даехаць не так доўга. Зранку трэба растрэсці два вазы гною. Даўно пара заканчваць сяўбу, а ў нас яна зацягнулася". Я выканала мамін загад. Выехала па вядомай сотні разоў пройдзенай сваімі нагамі дарозе. Праехала некалькі кіламетраў, як нахала на нешта вострае, і з аднаго кола выйшла паветра.

Дацягнула свой транспарт да Шчокаўшчыны, пакінула яго ў людзей, а сама, колькі было сілы, бягом у Ілью. На вуліцы, недалёка ад касцёла, стаялі дзяўчынкі з майго класа Марыя Кузьмінова і Валя Крэнь. Заўважылі мяне і расказалі, што яны напісалі па рускай мове дыктант. Я мала слухала, бегла да школы. Калі я ўскочыла на калідор, да мяне выйшлі Ілья Савіч і Зінаіда Сцяпанаўна. Крыху выслухалі тлумачэнне і адправілі ў клас. Затым Зінаіда Сцяпанаўна прадыктавала для мяне адзін дыктант. На наступныя экзамены я хадзіла пешшу.

**Леаніла МІЦЬКО (ПАПКОВІЧ),**
**вёска Дварэц,**
**Хаценчыцкі сельскі Савет**
**Вілейскага раёна.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР



**13 верасня.** 130 гадоў з дня нараджэння Янкі Былiны (сапраўднае Іван Семашкевіч, 1883–1955), паэта, драматурга.

***

**15 верасня.** 10 гадоў таму ў Мінску, на плошчы Свабоды, адбылося ўрачыстае адкрыццё занава пабудаванай ратушы.

***

Дзень бібліятэк Рэспублікі Беларусь. Дата свята абраная ў гонар дня заснавання Нацыянальнай бібліятэкі, галоўнага кнігасховішча краіны.

***

Дзень работнікаў лесу. Гэта прафесійнае свята людзей, якія сваёй высакароднай працай прымнажаюць нашы лясныя багацці і спрыяюць іх рацыянальнаму выкарыстанню.

***

**115 гадоў** з дня нараджэння Мікалая Кавязіна (1898 – 1950), рэжысёра, педагога, мастака, тэатральнага дзеяча, заслужанага артыста Беларусі.

***

**17 верасня.** У гэты дзень адбылося ўз'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі. Аперацыя Чырвонай Арміі праводзілася ў час, калі на тэрыторыі Польшчы адбываліся ваенныя дзеянні Другой сусветнай вайны.

***

**18 верасня.** 15 гадоў з дня стварэння (1998) Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Леаніда Ваўчэцкага (1913 – 1991), тэатральнага дзеяча, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

***

**19 верасня.** 70 гадоў з пачатку (1943) аперацыі "Канцэрт", другога этапу "рэйкавай вайны" партызан Беларусі на чыгуначных камунікацыях нямецкіх узброеных сіл.

***

**100 гадоў** таму (1913) выдалі зборнік вершаў Максіма Багдановіча "Вянок".

***

**95 гадоў** (1918) выдалі "Беларускую граматыку для школ" Браніслава Тарашкевіча (Вільня).

**Падрыхтавалі**
**Марыя БЕРАСНЕВА,**
**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ЮБІЛЕІ

# Хто ў церамку жыве? Майстар Аркадзь Кабак!

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэта пачатак не казкі, а гісторыі пра чалавека, нашага земляка, які 17 верасня адзначае сваё 85-годдзе.**


Аркадзь Кабак з акардэонам.

Фота Наталі ТУР.

Адразу патлумачу чытачам, адкуль у мяне ўзялося параўнанне з церамам. Прыязджаю да **Аркадзя Уладзіміравіча**, сам юбіляр сустракае мяне на ганку, запрашае прайсці ў хату. Я пераступаю парог і апынаюся ў казцы! Усе дзверы, шафы, люстры, крэслы, нават стол, зробленыя рукамі гаспадара. Драўлянай казкай можна было назваць усю гэтую прыгажосць, каб размова ішла пра экспазіцыю музея.

– Вось усе здзіўляюцца: і дакторка, і суседзі, і дзяўчына, што пенсію носіць, – пачынае размову Аркадзь Уладзіміравіч,– а я не разумею, што тут такога. Гэта ж усё сваімі рукамі зроблена. Няўжо ніхто так болей не можа?

## Пра справу ўсяго жыцця

**– А вы вучыліся гэтаму?**

– Не, спецыяльна не вучыўся. Я працаваў сталяром, слесарам, 15 год прарабіў на фабрыцы музычных інструментаў. Там паспрабаваў выточваць на станку, атрымалася, спадабалася, і вось ужо больш за 30 гадоў ствараю ўсе гэтыя рэчы на адзіным станку, што і сёння стаіць у мяне ў майстэрні. Пойдзем, пакажу.

**– А вы толькі для сябе рэчы робіце, а на продаж не спрабавалі?**

– Не, нашто на продаж? Калі суседзі, знаёмыя просяць, дык чаму ім не зрабіць? Прыязджаў да мяне бацюшка, прасіў зрабіць для царквы. Так што ў нашай царкве, той, што на плошчы Старое Места, ёсць і іконы, якія я аздобіў, і драўляныя крыжыкі.

– Я і ў іншых цэрквах бачыў работы бацькі, напрыклад, у Беніцы, – падключаецца да гутаркі сын Аркадзя Уладзіміравіча **Міхаіл**. Руку майстра цяжка не пазнаць.

**– А сёння працягваеце майстраваць?**

– А як жа! Не магу ні дня без працы. Учора закончыў рабіць крэсла.

**– А ў падарунак на юбілей што папросіце? Новы станок?**

– Не, свой стары ніколі не змяню. Ён мне верна служыць аж з 1979 года. Цяпер такіх не робяць. А якія падарункі мне трэба? Дзякуй богу, што за святочным сталом збярэцца ўся сям'я, родныя, блізкія, амаль 40 чалавек. Гэта галоўны падарунак.

## Пра сям'ю і маладосць

**– Вялікая ў вас сям'я?**

– Вялікая. Нас у бацькі чацвёра дзяцей было, а калі бацька ажаніўся другі раз, яшчэ чацвёра з'явілася. Але мы ўсе дружныя, мае сёстры ў Смаргоні жывуць. Таксама на юбілей прыедуць.

І я доўгі час жыў у Смаргоні, потым паехаў у Вільню. Ужо хацеў там застацца жыць пастаянна, але памёр бацька, і яго жонка папрасіла мяне вярнуцца, цяжка адной было дзяцей гадаваць. Але я не шкадую, таму што тут сустрэў сваё каханне.

**– Была рамантычная гісторыя знаёмства?**

– Ды якая там гісторыя? – гаворыць жонка Аркадзя Уладзіміравіча **Любоў Давыдаўна**. Пазнаёміла нас мая знаёмая. Прывяла яго ў вось гэту хату да мяне. Так з таго дня ён тут і застаўся жыць.

**– Аркадзь Уладзіміравіч, а вы ў маладосці першым хлопцам на танцах былі? Я бачу гармонік у вас.**

– Ой, у маладосці! Ён і цяпер на дзевак заглядаецца, – жартуе жонка.

І пацвярджаючы сказанае, Аркадзь Уладзіміравіч падхопліваецца з крэсла, бярэ ў рукі гармонік і пачынае спяваць... прыпеўкі. Адну за другой, усміхаючыся, сыпле прыпеўкамі юбіляр. І раптам у вачах з'яўляецца хітрынка, і Аркадзь Уладзіміравіч працягвае спяваць куплеты, так сказаць, "не для друку". Жонка, строга зірнуўшы, спыняе мужа, і той паслухмяна адкладае гармонік убок.

**– Дружна жывяце?**

– Ведаеце, – працягвае **Любоў Давыдаўна,** – за 40 гадоў мы ні разу не пасварыліся. Я, бывала, пачну на яго крычаць, калі што-небудзь не так. А Аркадзь толькі скажа: "Цішэй" і выходзіць з пакоя.

– Што вы! Я іх ніколі і паасобку не бачыла, падключаецца да размовы нявестка **Леаніда.** Толькі разам, толькі ўдваіх. І агарод удваіх садзяць, і кніжкі чытаюць.

–Так, – усміхаецца **Любоў Давыдаўна**, – калі Аркадзь без мяне ў царкву паедзе, дык я закрываюся на ўсе замкі і думаю: хутчэй бы ён вярнуўся.

## Пра царкву, веру і зоркі

**– Як часта бываеце ў царкве?**

– Раз на тыдзень. Апранаю касцюм, гальштук і еду на аўтобусе ў царкву.

– Бацька кожную нядзелю апранае касцюм, так прывучылі ў сям'і. І яшчэ кожны дзень пачынае з малітвы, а потым абавязкова голіцца, ніколі не лянуецца, – дадае **Міхаіл.**

– А дома шмат чытаю, цікава ж, якія цуды ў свеце робяцца.

**– А тэлебачанне гледзіце?**

– Толькі навіны. Не разумею, як мая Люба свайго "Мухтара" глядзіць. Б'юцца там, сварацца. Ці вось па тэлевізары расказваюць, што чалавек пайшоў ад малпы. А хто малпу стварыў, чамусьці не кажуць. А я думаю, што ўсё ад Бога. Вечарам люблю выходзіць на двор, глядзець на зоркі. Вы ведаеце, на чым яны там трымаюцца? А я веру, што гэта Бог іх там трымае. І пакуль ён іх трымае, існуе зямля.

**– Аркадзь Уладзіміравіч, дайце параду, як жыць, каб быць у ладзе і з блізкімі, і з самім сабой?**

– Крыўдзіць нікога не трэба. І жыць з верай у сэрцы. Толькі так.

P.S. Пад час размовы Аркадзь Уладзіміравіч прыгадаў яшчэ адну гісторыю. Аднойчы ён вяртаўся на аўтобусе з царквы, а побач сеў нейкі чалавек. "Вам 84 гады", – кажа той. Аркадзь Уладзіміравіч здзівіўся, бо так яно і было. Хаця падумаў, можа, гэта які знаёмы. "Не", – адказаў чалавек. – Я празорца. І пражывяце вы яшчэ больш за 10 гадоў".

Больш фота на сайце






Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08 @mail.ru

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# Лазню на Лясных не зачыняць

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю звярнуўся жыхар Лясных Віктар. Ад імя ўсяго Залінейнага раёна Маладзечна ён прасіў даведацца, ці магчыма яшчэ захаваць грамадскую лазню ў гэтым раёне Маладзечна.**



Фота Ілоны СЦЕБУРАКІ.

Гаспадар яе – чыгунка. 14 жніўня мы адаслалі кіраўніцтву чыгункі ліст, у якім прасілі патлумачыць, як вырашыцца лёс лазні.

Друкуем адказ.

*У адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця чыгуначнага транспарту Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гады (далей – Дзяржаўная праграма), зацверджанай пастановай Савета Міністраў ад 20 снежня 2010 года, Беларускай чыгунцы неабходна да 2015 года перадаць увесь жыллёвы фонд і аб'екты інфраструктуры, не звязаныя з забеспячэннем перавозачнага працэсу, у жыллёва-камунальны комплекс.*

*Мінскаму аддзяленню чыгункі даручана ў 2013 годзе спыніць эксплуатацыю няпрофільных аб'ектаў – лазняў, якія аказваюць платныя паслугі насельніцтву.*

*Лістом ад 15 сакавіка 2013 года Мінскае аддзяленне чыгункі звярнулася ў адрас Маладзечанскага райвыканкама з просьбай разгледзець пытанне перадачы лазні ў камунальную ўласнасць горада Маладзечна. На зварот Мінскага аддзялення чыгункі атрыманая адмова ад 23 красавіка 2013 года Маладзечанскага райвыканкама ў прыняцці ў камунальную ўласнасць будынка лазні.*

*На падставе гэтай адмовы Мінскае аддзяленне чыгункі звярнулася ў адрас Маладзечанскага райвыканкама з просьбай дазволіць перапрафіляванне будынка лазні пад адміністрацыйна-гаспадарчы будынак.*

*Для выканання работ па перапрафіляванні будынка лазні на станцыі Маладзечна сабраныя асноўныя зыходныя дадзеныя, падрыхтаваны архітэктурна-планіровачны будынак, атрыманае ўзгадненне Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, рашэнне Маладзечанскага райвыканкама ад 28 чэрвеня 2013 года "Аб дазволе выканання праектна-пошукавых і будаўнічых работ" па аб'екце "Рэканструкцыя будынка лазні па вуліцы Паркавай, 9 у горадзе Маладзечна пад адміністрацыйна-гаспадарчы будынак ЖРЭУ №4".*

*Падчас рабочай сустрэчы кіраўніцтва Мінскага аддзялення чыгункі і Маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта, якая адбылася сёлета 21 жніўня, дасягнутая дамоўленасць аб бязвыплатнай перадачы будынка лазні ў падпарадкаванне мясцовых органаў упраўлення.*

*Для выканання дасягнутых дамоўленасцяў Мінскае аддзяленне чыгункі цяпер праводзіць рамонтныя работы абсталявання кацельні, а таксама рыхтуе неабходны пакет дакументаў для перадачы ў камунальную ўласнасць будынка лазні ў адпаведнасці з заканадаўствам.*

**Юры ВАРАБ'ЁЎ,**
**намеснік начальніка аддзялення чыгункі.**
**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРС

# Лепшы міліцыянер Гродзенскай вобласці працуе ў Астраўцы

**АСТРАВЕЦ. У Гродне завяршыўся фінал конкурсу "Лепшы супрацоўнік крымінальнага вышуку Гродзенскай вобласці".**

У конкурсе ўдзельнічалі 17 чалавек, але пераможцам стаў старшы лейтэнант міліцыі Астравецкага РАУС **Валеры Бабраўніцкі.**

Канкурсантам трэба было праявіць сябе ў шматлікіх этапах конкурсу. І спецыяльная падрыхтоўка, і крыміналістыка, і сродкі сувязі, і асновы аказання даўрачэбнай дапамогі, і агнявая, і фізічная падрыхтоўка.

– Для мяне самым цяжкім было адказаць на тэарэтычныя пытанні, – кажа пераможца конкурсу Валеры Бабраўніцкі. – Гэта якраз быў апошні дзень майго адпачынку. Таму трэба было крыху паднапружыцца, каб зарыентавацца ў пытанні і даць правільны адказ. А так нічога складанага не было.

Пryз яшчэ Валерыю не ўручылі. Але абяцалі даць прэмію і дыплом. А вось колькі будзе складаць гэтаЗ прэмія, пакуль трымаюць ў сакрэце.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ТУРЫЗМ

# Паход у Карпаты: аблокі, вёдры поту і страшылкі

**ВІЛЕЙКА. Дзіўная мара была ў віляйчанкі Насці: яна хацела пагладзіць аблокі. І ў паходзе па Карпатах яе мара ажыццявілася.**

Ды столькі разоў, што іншыя турысты нават сталі яе жартам папракаць: "Насця, чаму з-за тваіх дзіцячых мар мы ўсе павінны пакутаваць?". Бо з палову паходу, які здзейснілі напрыканцы жніўня віляйчане, давялося ісці ў аблоках.

– А гэта і сырасць (усё набірае вільгаці), і недахоп кіслароду. Ды і як можна весці групу, калі яе не бачыш?! – тлумачыць кіраўнік турыстычнага клуба "Чарапашкі" цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Міхаіл Петух**. – І самае галоўнае: тое, для чаго ты падымаўся ў горы – гэту прыгажосць, – ты не бачыш. Праўда, часам на пару хвілін хмары разыходзяцца, можна як быццам праз ілюмінатар самалёта зазірнуць і ўбачыць, што ўнізе сапраўдныя краявіды, а не рэклама "Белавіі". А потым "порцыя" прыгажосці заканчваецца, і далей зноў ідзеш у аблоках.

Мы ведалі, што такое можа быць, рыхтаваліся. Не першы раз у Карпатах, было ўсялякае, бывалі вятры, што з ног валілі, але каб палову паходу прайшлі ў аблоках – такога яшчэ не бачыў. Зразумела, што акрамя іх былі і іншыя кліматычныя выпрабаванні: спякота, халадэча, навальніцы, дажджы, вятры.

Вось так, пракрочыўшы ў аблоках, сем выхаванцаў і кіраўнік клуба "Чарапашкі" за дзевяць паходных дзён пераадолелі каля 200 кіламетраў. Пабачылі яны найвялікшы вадаспад Украіны – Маняўскі, пакарылі шэсць вяршынь, у тым ліку і найвышэйшы пункт краіны Гаверлу (2061 метр над узроўнем мора).

**– Разумею, што самыя яркія ўражанні ад паходу засталіся ад аблокаў...**

– Так. Раніцай прачынаешся на вышыні 1500-1700 метраў, а аблокі ўнізе, на дне цяснін. І потым з кожнай хвілінай іх становіцца ўсе больш і больш, яны падымаюцца і займаюць свае месца. Захапляльнае відовішча. Асабліва калі промні сонца асвячаюць хмары – гэта не перадаць словамі.

Інтрыгуючы момант у паход уносіла адчуванне, што недзе блізка могуць быць мядзведзі.

– Большая частка маршруту праходзіла па глухіх мясцінах, дзе адпаведна водзяцца дзікія жывёлы. Шмат размоў было пра мядзведзяў. У адным сяле кажуць, мядзведзь восем кароў задраў, у іншых – пяць, тры... Стаўленне сакральнае. І папярэджваюць нас: "Вы ж асцярожна, дзяжурце па начах, вогнішча паліце". Вось такія страшылкі.

На адным з пераходаў сустрэлі горных ратавальнікаў, яны параілі нам у леснічоўцы спыніцца. Спытаў: "А што там з мядзведзямі, у леснічоўку не прыйдуць?". "Ды не, – кажуць. – Яны ў чалавечае жытло звычайна не лезуць". Калі раней былі проста размовы пра нейкіх мядзведзяў, то можна было жартаваць. А калі ўжо канкрэтныя работнікі так гавораць, то, пэўна, сапраўды звяры тут ужо блізка.

Прысутнасць мядзведзеў дысцыплінавала і ўносіла пэўны каларыт. Бачылі абадраныя кіпцюрамі дрэвы, памёт: ідзеш і адчуваеш, што ён недзе блізка. Таму, калі праходзілі самыя глухія мясціны, то шумелі, каб мядзведзь мог нас пачуць здалёк. Бо калі яны чуюць, што нехта ідзе, шуміць, то самі сыдуць. Усё ж мядзведзя мы не сустрэлі.

### Дзяўчаты перад снеданнем рабілі цікавыя прычоскі

**– Чым яшчэ гэты паход быў асаблівы?**

– Ніводнага паходу аднолькавага не бывае. Маршруты хоць трошкі, але адрозніваюцца, шукаем, дзе яшчэ не былі – мне самому нецікава паўтараць адно і тое. Не сказаць, што паход суперцяжкі, проста такі асаблівы. Ён другой катэгорыі складанасці – яна прадугледжвае пэўныя цяжкасці. Але магло іх быць і больш. Калі падлічыць усе фізічныя і тэмпературныя намаганні (некалькі дзён стаяла спякота), то, пэўна, у паходзе з усіх прапілося два ці тры вядры поту. Група была вельмі дружная, ішла заўсёды бадзёра, ніхто носу не вешаў, не адставаў. Сапраўды, вельмі рэдка так бывае. Такія дзеці падабраліся, што абсалютна спакойна, безператамлення ўсё




Прачынаешся, а пад табой – аблокі. Ідзеш – а іх усё больш.

прайшлі. Уразіла, што дзяўчаты раніцай заўсёды знаходзілі сілы да снедання зрабіць новую арыгінальную прычоску.

Прыемна здзівіла турыстаў стаўленне да гісторыі роднага краю мясцовага насельніцтва, якое ў Закарпацці складаецца з украінцаў, венграў, гуцулаў і шмат якіх яшчэ народаў. Тут, напрыклад, побач могуць суіснаваць помнікі як байцам Украінскай паўстанцкай арміі, так і іх ахвярам.

– У адным сяле ўстаноўлены помнік "Вользекулямётчыцы", якая змагалася ў радах Украінскай паўстанцкай арміі. А напрыканцы гэтага ж дня праходзім праз перавал і бачым іншы помнік – лесарубам, якіх забілі байцы гэтай арміі, – расказвае Міхаіл Петух. – А паміж імі яшчэ помнік польскім легіянерам, якія ваявалі ў 1914-15 гадах на баку кайзераўскай Германіі і загінулі ў час Першай сусветнай вайны.

### Мясцовыя ставіліся прыязней, калі гаварылі па-беларуску

**– Як з мясцовым насельніцтвам кантактавалі?**

– Людзі розныя сустракаліся. Пераважна вельмі прыязныя, дапамогуць, падкажуць, і моўных бар'ераў няма. Вядома, калі па-беларуску з імі загаворыш, то ласкавей адказваюць. Быў момант, калі ў краме дзеці перш за мяне па-руску да прадаўшчыцы звярнуліся, то ўжо насцярожанасць адчувалася.

### "Хамеры" знішчаюць некранутыя Карпаты

А яшчэ Міхаіла Петуха адначасова парадавала і занепакоіла вельмі сур'ёзныя праца па развіцці турызму ў Карпатах:

– У гэту справу ўкладваюцца грошы: робяць стаянкі, шыльды, інфармацыйныя стэнды для таго, каб людзі маглі арганізавана пераначаваць, не блукалі. Шмат дарог робіцца, каб можна было пад'ехаць, а не толькі пешшу прайсці. З аднаго боку, гэта і дрэнна, калі дзікі турызм губляе сэнс. А з іншага, гэта лепш для тых людзей, якія не могуць хадзіць у паходы.

Праўда, баюся, што праз год пяць-дзесяць ад Карпат застанецца такі "фанцік". У прыватнасці, бачылі, як на гары Блізніца людзі на "хамерах" імчаліся на вяршыню. Дарогі там няма, але на сваіх машынах каляіну зробяць, рана на глебе будзе зажываць шмат год. Шкада тых некранутых Карпат, якія раней былі, дзе сапраўды адчувалася еднасць і гармонія з прыродай.

З кожным годам Карпаты становяцца больш падобнымі да парку. На вяршынях даўно стаяць слупочкі з указаннем вяршынь. Калі раней ішоў і спадзяваўся толькі на компас, азімут, карту і свае веды, то сёння вось табе стрэлкі: хадзі туды, а сюды не хадзі. Губляецца прывабнасць экстрэмальнага турызму і адпаведна цікавасць.

...Вы кажаце, што мы пакарылі вяршыні? Не згодзен. Гэта Карпаты пакарылі нас. Яны заўсёды падкідваюць якуюсьці таямніцу, каб зноў хацелася сюды вярнуцца. Глядзіце пільна, каб і вам не стаць зачараванымі гарамі. А то захочаце ў казку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Больш фота на сайце rh.by.**

ФУТБОЛ

# "Маладзечна-2013" перамагло "Партызан-МТЗ"

**МАЛАДЗЕЧНА. З лікам 1:0 закончылася гульня з мінскім "Партызанам".**

Пераможны гол забіў **Дзяніс Жыліч**, які гуляе і за "Іслач" (Мінскі раён, першая ліга). Гэта чацверты гол гульца ў складзе маладзечанскай каманды за гэты сезон.

"Маладзечна-2013" атрымала за гульню тры ачкі і перасунулася з адзінаццатага на дзясяты радок турнірнай табліцы.

Аднак галоўны трэнер клуба "Маладзечна-2013" **Дзяніс Мятліцкі** чакаў больш высокіх вынікаў:

– Перамагаць заўсёды прыемна. Але я спадзяваўся, што ў выніку мы заб'ём тры-пяць галоў. Калі ж каманда будзе гуляць з такой жа аддачай, то ёсць шанец закончыць сезон у раёне пятага радка турнірнай табліцы.

Апошні тыдзень футбалісты маладзечанскай каманды не могуць трэніравацца. Яны шукаюць новую пляцоўку для трэніровак, прычым у Мінску: большасць гульцоў менавіта са сталіцы.

Як паведаміў галоўны трэнер клуба, нават невядома, ці адбудзецца гульня са Жлобінам 14 верасня. Маладзечанскі стадыён закрываецца на два тыдні на рэканструкцыю. Так што невядома ні месца, ні час гульні 18 тура. За навінамі сачыце на нашым сайце rh.by.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

| Радок | Каманда | Матчы | Ачкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Гомельчыгунтранс | 16 | 46 |
| 2 | Нёман (Масты) | 16 | 33 |
| 3 | Зорка-БДУ (Мінск) | 16 | 33 |
| 4 | Жлобін | 16 | 26 |
| 5 | Орша | 16 | 22 |
| 6 | Баранавічы | 16 | 21 |
| 7 | Кобрын | 15 | 20 |
| 8 | Лівадзія (Дзяржынск) | 16 | 18 |
| 9 | Асіповічы | 16 | 17 |
| **10** | **Маладзечна-2013** | **15** | **15** |
| 11 | Партызан-МТЗ (Мінск) | 16 | 14 |
| 12 | АЛФ-2007 (Мінск) | 15 | 14 |
| 13 | Віцебск-2 | 15 | 2 |

КОНКУРС

# Выйграй білет на матч "Смаргоні"!

**СМАРГОНЬ. У сумесным конкурсе "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь" зноў не было пераможцаў.**

Няўжо няма здольных угадаць лік матча? Спрабуйце: цяпер ад вас патрабуецца прадказаць лік гульні "Смаргонь" – "Віцебск" і назваць каманду, якая заб'е першай.

Ваш адказ можаце даслаць да 12 гадзін 14 верасня (субота) праз SMS на нумар **8(044) 566-26-99** ці пакінуць у каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў групе ФК "Смаргонь" "Вконтакте", на афіцыйнай старонцы клуба ў Facebook.

Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты – з тым, каб у выпадку выйгрышу вас можна было адшукаць.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні". Першы, хто дашле SMS з адказам, атрымае сувенір ад "Рэгіянальнай газеты". Па выніках мінулага тура гэты прыз адправіцца **Ларысе Уладзіміраўне**.

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

# Клубы з Маладзечаншчыны на дваіх забілі восем мячоў

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА. У матчы 18-га тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе сустрэліся клубы з Маладзечаншчыны: 7 верасня "Забудова-2007" з лікам 3:5 прайграла "Маладзечну-ДЮСШ-4".**

"Вілія" з Вілейкі залічана тэхнічная паражэнне 0:3 за няяўку на матч з "Нёман-Агра" (Стаўбцоўскі раён).

**Аддзел інфармацыі.**

## Камент-эксперт rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Чаму так многа смецця?**

Мы ніколі не выкідваем смецце па дарозе, усё збіраем і вязём дадому. Самі з сябе калі-нікалі смяёмся: усё сваё вязу з сабой. Чаму некаторыя завальваюць сметніцы старой мэбляй? Напэўна, ёсць надзея на тое, што каму-небудзь гэта спатрэбіцца. Мы жывём у прыватным доме, таму смецце ў нас забіраюць у пэўны дзень. Аднойчы мая мама вырашыла выкінуць вялікі палас. Натуральна, што ён не залез у пакет з іншым смеццем, таму паставіла яго проста ля варот. І што вы думаеце? Праз некаторы час "пайшоў" наш палас. Мы нават не заўважылі, хто яго забраў. Нам ён не трэба, а камусьці і вельмі спатрэбіўся. ***Галіна.***

Калі ехалі з Украіны, здзівіляліся, колькі ў іх смецця! Параўноўвалі гэту краіну з нашай. Перавага была на баку нашай – у нас чысцей. У іх такое становішча звязанае з тым, што ёсць вялікі прыток турыстаў. Некаторыя з іх не кідаюць, дзе што папала, а іншыя не задумваюцца над тым, што пасля сябе пакінулі. ***Мама.***

**Аляксандр Яхнавец спадзяецца, што заўтра дзеці змогуць прыйсці ў школу**

Вывелі дзяцей арганізавана, малайцы, але чаму вечарам па ўсіх СМІ не далі інфармацыю, ці весці дзяцей у школы? Усе абзвоньвалі настаўнікаў. Праз пятыя рукі. Як быццам гэта не самая важная падзея за дзень была. Гэта дзеці! Горад павінны былі паставіць на вушы, інфармаваць кожную гадзіну! А то як засёды: гарыць порах, а кажуць, што феерверкі. ***Ілля.***

ВЕЛАТУРЫЗМ

# Вывучалі Англію на роварах

**МАЛАДЗЕЧНА. Удзельнікі турыстычнага клуба "Пілігрым" вярнуліся з падарожжа па Вялікабрытаніі.**

А запрасіў іх Якабс Вудс, англічанін, які падарожнічаў летась па Еўропе на ровары. Падчас падоарожжа ён завітаў у Маладзечна, дзе і пазнаёміўся з сябрамі клуба. "РГ" пісала пра гэта ў №43 за 26 кастрычніка 2012 года.

Чацвёра вандроўнікаў, узброіўшыся роварамі, ахапілі амаль 500 кіламетраў дагэтуль невядомай ім краіны. Вядома, велатурызм – гэта своеасаблівая рамантыка, цікавая альтэрнатыва звычайнаму падарожжу. Начаваць тут даводзіцца не на шыкоўным ложку нумара люкс, а проста ў палатцы. Там жа і ежу гатуюць, і вольны час бавяць.

Нашы турысты часцей за ўсё адпачывалі там, дзе давядзецца: у кавярні, на лавачцы або на спецыяльна адведзеных газонах для пікнікоў.



Фота забяспечана Аленай ДЗЯМЧУК.

**Амаль 500 кіламетраў праехалі чацвёра маладзечанцаў па Англіі на роварах.**

– Адметна тое, што брытанцы вельмі адказна ставяцца да чысціні навакольнага асяроддзя, – заўважыў **Сяргей Семянюк**, арганізатар турыстычнай групы. – Бачыў, як хлопец выпусціў з рук паперку з-пад марозіва і ветрам яе панесла па зямлі. Ён пагнаўся за ёй, схапіў і кінуў у сметніцу. Такі ж лёс чакаў і пластыкавую бутэльку, якая ўвогуле не была яго.

Вынікае, што не ад дворнікаў залежыць чысціня, а ад нас саміх.

Цікава, што брытанцы вельмі ўважліва ставяцца да жывёл. За ўвесь час турысты амаль не бачылі бадзяжных кошак ці сабак. Сям'я, якая не мае дзвюх або трох хатніх жывёлін, лічыцца няпоўнай.

– Аднойчы мы бачылі, як пажылая пара паволі ехала на аўтамабілі і праз адчыненае акно на павадку выгульвала мопса, – падзялілася назіраннямі **Вольга Гулевіч**, удзельніца падарожжа.

Цяжэй за ўсё турыстам было прыстасавацца да левабокавага дарожнага руху. Да таго ж дзіўнай для турыстаў стала звычка брытанцаў дэталёва планаваць свой адпачынак. Білеты на звычайны электрацягнік трэба купляць загадзя. Прычым заказваць іх можна праз смс-запыт з мабільнага тэлефона.

Цэны на білеты ўражваюць сваёй дарагавізнай. Ад Лондана да Эдынбурга каля 600 кіламетраў (прыкладна як ад Віцебска да Брэста), а білет каштуе два мільёны рублёў у пераводзе на беларускія грошы.

Народ у Вялікабрытаніі падаўся вельмі добразычлівым.

– Мы часта не маглі зарыентавацца на шляху да маленькіх вёсачак, тады людзі імкнуліся як мага прасцей растлумачыць, як туды дабрацца, – паведамляюць турысты.

Зімой аматары ровара адпачынку таксама не збіраюцца сядзець дома. У іх планах наведаць Грэцыю або Італію.

**Алена ДЗЯМЧУК.**

ГАРАСКОП (13-19 ВЕРАСНЯ)


**Авен.** Поспех будзе з вамі ва ўсіх справах. Станоўчыя эмоцыі, новыя знаёмствы, цікавыя сустрэчы – гэта ўсё чакае наперадзе.


**Цялец.** Пастаўце інтарэсы сям'і на першае месца, наладзьце адносіны з блізкімі. Адпачніце разам, схадзіце куды-небудзь. Будзьце ўпэўнены, што гэта прынясе асалоду вам і парадуе блізкіх.


**Блізняты.** Больш рухайцеся, кантактуйце з сябрамі, знаёмцеся з новымі людзьмі. Новыя знаёмыя ў будучым могуць адыграць вялікую ролю ў вашым жыцці.


**Рак.** Укладайце сілы ў любімую справу, а ў асабістым жыцці ідзіце на ўступкі, гэта дапаможа захаваць адносіны.


**Леў.** Гэта спрыяльны час для кантактаў з сябрамі і сваякамі. Асвойце незнаёмую справу, вынік не прымусіць чакаць.


**Дзева.** Тыдзень будзе надзвычай прадуктыўны. Вы хутка справіцеся са сваімі абавязкамі, тым самым пакінеце ззаду канкурэнтаў.


**Шалі.** Блізкія людзі будуць чакаць ад вас учынкаў, да якіх вы пакуль не падрыхтаваныя, таму магчымы спрэчкі.


**Скарпіён.** Час будзе патрабаваць вялікай самааддачы. Цяпер вы будзеце на пад'ёме сіл, але поспех дастанецца вялікім коштам. Мабілізуйце свае творчыя магчымасці, гэта дапаможа рэалізаваць ранейшыя мары і жаданні.


**Стралец.** Магчымы прагрэс у справе, над якой вы шмат працавалі ў апошнія дні. Здольнасць сканцэнтравацца на прафесійных абавязках дасць перавагу над канкурэнтамі. Увечары сустракайцеся з сябрамі, адпачывайце, заедзьце да сваякоў, яны гэта ацэняць.


**Казярог.** Пазбягайце перанапружання, яно непажадана для вашага здароўя. Размяркуйце правільна час, каб вы маглі займацца справай, якая падабаецца.


**Вадалей.** Тыдзень будзе лёгкім і прыемным. Вам будзе шанцаваць – гэта дапаможа ў дасягненні пастаўленых мэтаў і нагогул вельмі ўзрадуе. Вернуцца старыя сябры і людзі, па якіх вы сумавалі.


**Рыбы.** Тыдзень не прынясе ні вельмі дрэнных эмоцый, ні вельмі станоўчых. Усе падзеі будуць ісці сваёй чаргой. Магчымы нечаканыя прапановы, любоўныя прызнанні.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | | 4 | | | | |
| | | | 5 | 7 | | | 4 | |
| | | | | | | 1 | | |
| 9 | 2 | | | 5 | | | 8 | |
| | | 3 | 8 | | 2 | 5 | | |
| | 4 | | | 9 | | | 7 | 2 |
| | | 4 | | | | | | |
| | 5 | | | 1 | 9 | | | |
| | | | | 2 | | 4 | 6 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Выратаваць зямлю**", 3D (Тайланд, 2013, без узроставых абмежаванняў)
13 верасня – 19.00
14 верасня – 14.30, 19.00
15 верасня – 14.30, 16.30
16-17 верасня – 19.00
18 верасня – 16.30
19 верасня – 17.00, 19.00
Кошт білета – 22 000 рублёў.

Фэнтэзі, трылер "**Расамаха: Бессмяротны**", 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, да 12 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога).
13, 14 верасня – 16.30
15 верасня – 18.30
18 верасня – 18.30
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў

Камедыя "**Гульня ў праўду**" (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
13-19 верасня – 21.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Гістарычныя прыгоды "**Сляды апосталаў**" (Беларусь, 2013, да 14 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13 верасня – 17.00
14, 15 верасня – 19.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Анімацыя "**Прыгоды Машы ў Краіне цудаў**" (Кітай)
14, 15 верасня – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Трылер "**Сайлент Хіл 2**" (Францыя)
13 верасня – 19.30, 21.30
14, 15 верасня – 17.00. 21.30
16-19 верасня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Баявік "**Няўлоўныя**" (ЗША)
17-19 верасня – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. для даведак:
**8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

*АДКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА*

"**Чырвоная шапачка**" (музычная казка). Я. Шварц.
22 верасня – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ISSN 1991-7155



**Камент-эксперт**




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобныя артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +18 | | +13 / +18 | | +13 / +18 | | +10 / +17 | |
| | 740 | ↖ 6 | 736 | ↖ 7 | 739 | ↖ 6 | 736 | ↖ 6 |
| Вільня | +14 / +19 | | +14 / +17 | | +13 / +14 | | +11 / +16 | |
| | 749 | → 3 | 748 | ↖ 5 | 747 | ↖ 5 | 744 | ↑ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.45
Захад 19.31
Даўжыня дня 12.46

Усход 16.34
Захад 0.11
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- Гусі ляцяць нізка – зіма блізка, а высока – зіма далёка.
- Калі дождж пайшоў з сярэдзіны дня – зацягнецца надоўга.
- 14 верасня. Сямёнаў дзень. Птушкі адлятаюць у вырай.
- У беларусаў-каталікоў – Узвіжанне.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Які самы экстрэмальны адпачынак быў у вашым жыцці?



**Аляксандр Шаўлюк, мантажнік:**

– Я нават не задумваўся над экстрэмальным адпачынкам. Мне не да адпачынку. Вось на выхадныя трэба ехаць ў вёску бульбу капаць.



**Таццяна Комар, прадавец:**

– Звычайна я адпачываю на возеры. А зімой люблю разам з дзецьмі пакатацца на каньках. Гэта таксама экстрэмальна, бо можна пазбіваць калені.



**Кацярына Сіняўская, прадавец:**

– Звычайна я адпачываю з сябрамі. Сёлета пашанцавала з'ездзіць на мора ў Крым. А экстрэмальнымі відамі адпачынку я ніколі не цікавілася.



**Андрэй Белкін, школьнік:**

– Летам я адпачываў у гарах. Вядома, не лазіў у горы, а толькі глядзеў на іх. Мне падабаецца больш спакойны адпачынак.



**Дар'я Радзевіч, прадавец:**

– Хацелася б паехаць на мора, але пакуль няма магчымасці. Ад работы пераважна адпачываю на дачы.



**Алена Ціценка, аператар электроннага набору:**

– Самы экстрэмальны адпачынак для мяне летась быў у Крыме. Мы вельмі дрэнна адпачылі, усе паатручваліся, да таго ж мора было вельмі бруднае.



**Таццяна Сарока, музычны педагог:**

– Зімой я люблю пакатацца на лыжах. А летам мы адпачываем на дачы, там у нас ёсць сажалка, дзе можна і рыбку палавіць.

**Настасся РОЎДА, Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Тое, што жанчыны складаюць значную частку калектыву кіроўцаў трамвая і тралейбуса, – гэта агульнавядома. А вось жанчыны-таксісткі – вялікая рэдкасць. У Маладзечне такіх чацвёра. Інтэрв'ю з адной з іх чытайце ў наступным нумары.




Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 37 (959) 13.09.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 836. Падпісана ў друк у 10.00 12.09.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.